У НУМАРЫ



# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (763) БЕЛАСТОК 11 КАСТРЫЧНІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ хроніка

### ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ КУЛЬТУРЫ ГП БГКТ

18 верасня 1970 года ў Беларускім клубе на Варшаўскай 11 адбылося чарговае пасяджэнне Камісіі культуры ГП БГКТ. Вёў яго Мікола Матэйчук з Гарадка — старшыня камісіі.

На пасяджэнні быў разгледжаны і зацверджаны праект даклада на пленум ГП БГКТ.

Камісія вельмі клапатліва дыскутавала аб розных аспектах і напрамках грамадска-культурнай дзейнасці Таварыства і праблемах, якія павінны стаяць на пленуме.

Ацэнка датыхчасовых напрамкаў і форм культурнай дзейнасці хаця была пазітыўная, аднак было сцверджана, што была завужанай. Прымацыць трэба новыя формы, не зводзіць культурнай дзейнасці да ўстарэлых, і пастаянна развівацца ў супрацоўніцтве з усімі культурнымі арганізацыямі і ўстановамі — вось галоўнае, што стаіць перад намі.

Камісія зацвердзіла правілы конкурсу беларускай песні, агляду драматычных гурткоў з беларускім рэпертуарам, агляду малых вакальных груп. Апошні агляд уводзіцца ўпершыню ў сёлетнім культурным сезоне, як новая форма прапагандавання песні. Усе ўспомненыя мерапрыемствы маюць вялікі круг суарганізатараў: аддзелы культуры, маладзёжныя арганізацыі, прафсаюзы, спулдзельчасць, «Рух», пажарная ахова.

Конкурсы і агляды прысвячаюцца 15-годдзю Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы і рэдакцыі «Ніва».

### ФЭСТЫН У ГАРКАВІЧАХ

20-га верасня ў Гаркавічах на Сакольшчыне адбыўся фэстын, прысвечаны 100-ай гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна. У фэстыне прынялі ўдзел павятовыя і грамадская ўлады, прадстаўнікі павятовага камітэта партыі і гаспадары вёскі. З боку ГП БГКТ удзельнічаў сакратар Я. Зенюк і кіраўнік культурна-асветнага аддзела С. Лукашук. У мастацкай частцы выступіла «Лявоніха». На заканчэнне ў мясцовай святліцы адбылася забава, на якой гуляла моладзь Гаркавіч і навакольных вёсак. (вл)

ПЕРАД ПЛЕНУМАМ ГП БГКТ

## Дыскусійная трыбуна

*11 кастрычніка г.г. адбудзецца пленум ГП БГКТ, прысвечаны культурным справам. Як іх палепшыць? Гэтае пытанне і імкнуцца вырашыць удзельнікі нашай дыскусіі. Думаем, што іх слова будзе добрым уступам да дыскусіі на пленуме.*

### БЛІЖЭЙ ДА НАСТАЎНІКА



АЛЯКСАНДРА ПАНАСЮК — *кіраўнік школы ў Пасынках.*

Няма рэцэпту на культурную працу. Аднак я як настаўніца з 17-цігадовым стажам працы на вёсцы хачу пажадаць цяпер, каб таварыства мела бліжэйшыя кантакты з настаўнікамі і дзеячамі культуры. Калі вясковы дзеяч бачыць, што ім ніхто не цікавіцца, проста кідае сваю грамадскую працу. Трэба больш у вёску прыязджаць, падтрымліваць людзей на духу, хваліць, калі выходзіць што добрае і пацешыць, калі не выходзіць, без гэтага падае работа. ГП павінна б нейкую экскурсію падрыхтаваць сваім дзеячам, паказаць свету кусок і людзей, ад якіх можна і павучыцца.

Роля настаўніка ў вёсцы вялікая. Ён мае трывалы аўтарытэт. Ад яго ўдзелу культурна - асветнай працы многае залежыць. Настаўнік мае педагагічную падрыхтоўку і таму ўмее падысці да моладзі. Лічу, што настаўніка як дзеяча больш трэба паказваць у «Ніве», запрашаць часцей на вялікія ўрачыстасці ў ваяводстве. На вёсцы адчуваецца вялікі недахоп культурных кадраў. Для гэтага выкарыстоўваць трэба краёвыя курсы для культурных дзеячаў і праз ваяводскі дом культуры высылаць людзей на гэтыя курсы. Была я на такім курсе, многаму навучылася. Справу ўдзелу настаўнікаў у такіх курсах трэба таварыству ўладзіць з куратарыяй.

— Другая справа — гэта ўпартасць чалавека ў яго грамадскай працы. Бывае цяжка, але калі не здасіся, сам пасля будзеш задаволены. Людзі ў вёсцы горнуцца да дзейнасці тады, калі нешта выходзіць.

У вёсках нашых бывае часта так, што школа спаўняе ролю адзінай культурнай установы, з'яўляецца цэнтрам культурнага жыцця. У мяне зварот да ўсіх улад: каб у такія школы пры раздзеле настаўніцкіх кадраў даваць людзей, якія маюць схільнасці да грамадска-культурнай працы, якія ведаюць хоць адну нейкую форму гэтай дзейнасці, напрыклад, спеў, танец, тэатр ці іншую.

### ГЛЫБЕЙ І ШЫРЭЙ

МІКАЛАЙ САМОЦІК — *старшыня Прэзідыума ПРН ў Гайнаўцы.*



Хачу падкрэсліць шырэйшы аспект культурнай дзейнасці. Хачу сказаць пра эстэтыку ў нашых вёсках, хатах, на вуліцах, у святліцах — клубах. Гэта ж таксама культура. Эстэтыку, як неадрунны элемент усялякай культуры трэба прапагандаваць шырока. Вынікі добрыя ў гэтым даць можа супрацоўніцтва таварыства з вясковымі гаспадынямі. Таварыства мала ўвагі звяртала дагэтуль на гэтыя справы. А і грошы ёсць, толькі заняцца трэба.

Формы культурнай працы — у нас пераважаюць старыя, пераважна драмгурткі. А яны якраз карыстаюцца ўсё меншай папулярнасцю. Патрэбы людзей выраслі і растуць далей. Не паспееш за тэлевізіяй ці іншай формай масавых сродкаў прапаганды і інфармацыі. А гэта занадта вялікая канкурэнцыя для ўстарэлага часта самадзейнага руху. Значыць, трэба сягаць глыбей, ды шырэй разумець культурна - асветную дзейнасць, каб прыцягнуць да яе чалавека.

Народная культура і мастацтва — гэта асобны раздзел у культурнай працы. Прывыкаем мы да фабрычных вырабаў, а нельга ж дапусціць да таго, каб народная культура занікла. Яна нясе ў сабе вялікія выхаваўчыя вартасці, а нават і гаспадарчыя. Добра, што ткуцца па вёсках саламянкі, што плятуць людзі кашы. Зарабляюць на гэтым грошы. Трэба памятаць, што гаспадарчы ўздым спрые культурнаму ўздыму. Таварыства ў гэтай вялікай праблеме не выпрацавала форм папулярызацыі народнай творчасці. Мо б вялікі конкурс народнай культуры? Аддзелы культуры маюць на гэта грошы і, напэўна, уключыліся б.

Гайнаўскі раён — асабліва цікавы, раён адпаведны для прадукцыі сувеніраў. Прыязджаюць сюды тысячы турыстаў, хочуць купіць на памяць дробязь. А яе нідзе няма. І няма таксама адважных, якія б пачалі сапраўдны пералом у гэтай справе.

Таварыства шырэй павінна выйсці ў сваё ваяводства і ў краіну. Добра было б, каб актыў БГКТ мог сістэматычна абменьвацца вопытам з іншымі ваяводствамі, з іншымі нацыянальнымі таварыствамі. А спытайце, хто дагэтуль з нас быў у Сейнах, у Літоўцаў?

Беларускае таварыства — гэта партнёр сур'ёзны. Можа ён мець вялікі ўплыў на жыццё ваяводства. У нас, на Гайнаўшчыне, мы з практыкі ведаем, колькі добрага можа зрабіць БГКТ. Яно мае вялікія эфекты ў грамадска-палітычнай працы ў павеце, а для ўсіх нас такая праца важная.

Таварыства — гэта не выключна вясковая арганізацыя, а дагэтуль такой неяк было. Шырэй трэба ісці да рабочых і інтэлігенцыі. Таварыства існуе для ўсіх.



*Школьны дуэт з вёскі Рагачы, Сямяціцкага павета — Міра Паўлючук і Валя Самасюк — на конкурсе «Беларуская песня — 1970» у Беластоку. Фота Цаф — Сянько.*

### ПЕРШ ЗА ЎСЁ — КААРДЫНАЦЫЯ

АНТАНІНА КУНА — *кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума ПРН у Бельску.*

Вельмі важным, здаецца мне, з'яўляецца тое, каб усе культурна-асветныя мерапрыемствы БГКТ былі скаардынаваны з агульнавая-

(Працяг на стар. 3)

## ◆ ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС ◆

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства аб'яўляе літаратурны конкурс, прысвечаны 15-цігоддзю дзейнасці БГКТ у ПНР.

ПРАВІЛЫ КОНКУРСУ:

1) Удзел у конкурсе могуць прыняць як члены літаратурнага аб'яднання «Белавежа», так і асобы, якія не належаць да аб'яднання.

2. Творы, прысвечаныя розным формам дзейнасці БГКТ, могуць быць напісаны ў форме верша, апавядання, фельетона, сцэнічнага твора і т.п.

3. Творы павінны быць напісаны па-беларуску і прысланы ў 3-х экземплярах, надрукаваныя на машынцы.

4. Велічыня твораў не абмежавана.

5. Конкурс мае ананімны характар і ў сувязі з гэтым пад кожным творам павінен быць нейкі псеўданім. Ён павінен быць змешчаны таксама побач з прозвішчам аўтара ў асобным канверце.

6. Галоўнае праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства прызнае наступныя ўзнагароды:
I — 2.000 ЗЛ.
II — 1.500 ЗЛ.
III — 1.000 ЗЛ.

7. ГП БГКТ абавязваецца надрукаваць у «Ніве» ці іншых кніжных выданнях узнагароджаныя творы.

8. Творы на конкурс павінны быць дасыланы па адрасу: ГП БГКТ, Беласток, вул. Варшаўская 11, да дня 30.I.1971 года.

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ГАМАЛЬ АБДЭЛЬ НАСЕР

28 верасня г.г. на 53-м годзе жыцця раптоўна памёр выдатны дзяржаўны дзеяч Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі, лідэр арабскага нацыянальна-вызваленчага руху, Гамаль Абдэль Насер.

У 1942 годзе быў ён накіраваны на вучобу ў ваенны каледж Генеральнага штаба, пасля заканчэння якога быў выкладчыкам гэтага каледжа. У 1948-49 Г. А. Насер удзельнічаў у палесцінскай вайне, быў паранены, за удзел у баях быў узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Г. А. Насер быў ініцыятарам стварэння і кіраўніком арганізацыі «свабодныя афіцэры», якая падрыхтавала і ажыццявіла 23 ліпеня 1952 года антыімперыялістычную, антыфеадальную рэвалюцыю ў Егіпце. У выніку рэвалюцыі ў краіне быў звергнуты манархічны рэжым і абвешчана рэспубліка.

У 1954 годзе Г. А. Насер стаў старшынёй Рэвалюцыйнага савета і прэм'ер-міністрам, а ў лістападзе таго ж года Рэвалюцыйны савет усклаў на яго абавязкі прэзідэнта рэспублікі. У чэрвені 1956 года ўсенародным галасаваннем Г. А. Насер быў выбран прэзідэнтам. У сакавіку 1956 года ў адпаведнасці з новай канстытуцыяй ААР ён быў перавыбраны прэзідэнтам Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі.

Пад кіраўніцтвам прэзідэнта Насера егіпецкі народ дабіўся сур'ёзных поспехаў у развіцці нацыянальнай эканомікі і ажыццяўленні прагрэсіўных сацыяльных пераўтварэнняў, а ў знешняй палітыцы ААР нязменна ішла антыімперыялістычным курсам.

У апошнія дні свайго жыцця прэзідэнт Гамаль Абдэль Насер аддаваў усе сілы спыненню братабойчага канфлікту ў Іарданіі, згуртаванню арабскіх народаў на барацьбу супраць агульнага ворага — імперыялізму і яго агентуры.

У ААР аб'яўлена 40-дзённая жалоба. Пахаванне прэзідэнта адбылося 1 кастрычніка г.г.

### ВЫСТУПЛЕННЕ БРЭЖНЕВА

З нагоды пяцідзесяці год Савецкай улады ў Азербайджане адбылося ў Баку ўрачыстае пасяджэнне ЦК Кампартыі Азербайджана і Вярхоўнага Савета Азербайджанскай ССР. З прамовай выступіў Л. Брэжнеў, Генеральны сакратар ЦК КПСС.

Л. Брэжнеў сцвердзіў, што сітуацыя на Блізкім Усходзе не можа не выклікаць занепакаення. Кантакты, якія навязваліся паміж ААР і Іарданіяй ды Ізраілем пры дапамозе прадстаўніка ААН Г. Ярынга, канчаткова не далі вынікаў. Віна ў гэтым тэлявіўскіх урадавых кол, якія пры дапамозе падтрымкі ЗША робяць усё, каб падарваць місію Г. Ярынга.

Генеральны сакратар ЦК КПСС сцвердзіў, што крывавыя сутыкненні паміж каралеўскімі войскамі і войскамі палесцінскіх арганізацый у Іарданіі таксама зрабілі не малую шкоду супольнай справе арабскіх народаў, між іншым, палесцінскіх арабаў. (ак)



## БССР

### ТЭАТР КУПАЛЫ

Спаўняецца 50 гадоў Беларускаму дзяржаўнаму ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы ў Мінску. З творчасцю купалаўцаў знаёмы жыхары многіх гарадоў і вёсак Беларусі. Не знойдзецца, бадай, мясціны такой, дзе б не паказвалі яны свае спектаклі, не сустракаліся з простымі людзьмі. Купалаўскі тэатр з вялікім уздымам быў свайго часу сустрэты і ў Беластоку.

Міністр культуры Беларускай ССР Міхась Мінковіч так інфармуе пра ўрачыстасці, арганізаваныя з гэтай нагоды:

— Урачыстасці ўключаюць цэлы шэраг мерапрыемстваў, прапанаваных і зацверджаных камісіяй па падрыхтоўцы і правядзенню юбілею... Рыхтуецца да выдання буклет «Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы», фотакамплект «Першаму акадэмічнаму — 50 гадоў», фотаздымкі артыстаў і юбілейныя сувеніры... Калектыў купалаўцаў пачаў праводзіць юбілейныя творчыя сустрэчы на прамысловых прадпрыемствах, новабудоўлях, у навучальных установах, калгасах...

### СІМПОЗІУМ

Вядучыя дзіцячыя хірургі Савецкага Саюза, анестэзіёлагі-рэаніматары, біяхімікі прынялі ўдзел ва Усесаюзным сімпозіуме, які адбыўся ў сталіцы Беларусі.

Адкрываючы сімпозіум, міністр аховы здароўя Беларускай ССР, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, прафесар М. Саўчанка адзначыў велізарную важнасць унесеных на абмеркаванне пытанняў, звязаных з далейшым паляпшэннем медыцынскага абслугоўвання дзяцей.

Удзельнікі сімпозіума азнаёміліся з цэнтрам дзіцячай хірургіі, які адкрыўся нядаўна ў Мінску.

### ГЕРАНТОЛАГАЎ

Беларусь сярод іншых рэспублік Саюза ССР займае пятае месца па колькасці асоб, якія пражылі 80—100 гадоў і больш. Больш за ўсё іх у Пастаўскім і Мядзельскім раёнах, каля возера Нарач. Сярод гарадоў у гэтых адносінах выдзяляюцца Рэчыца, Вілейка, Бабруйск. Большасць сярод старэйшых жыхароў складаюць жанчыны.

Гэтыя даныя былі прыведзены на першай навуковай сесіі сектара геранталогіі Акадэміі навук Беларускай ССР.

### СЦЯЦКО

Нядаўна выйшла кніжка П. Сцяцко «Народная лексіка», падрыхтаваная выдавецтвам «Навука і тэхніка» ў Мінску. Гэта першае манаграфічнае даследаванне на гэту тэму. Аўтар абраў аб'ектам свайго даследавання бытавую лексіку гаворак Зэльвеншчыны.

У водгуку на кніжку Сцяцко прыводзім:

«Лексіка беларускіх народных гаворак яшчэ вельмі слаба вывучана. Між тым даследаванне яе мае важнае не толькі ў тэарэтычным плане значэнне. Вывучэнне народнай лексікі дапамагае далейшай нармалізацыі слоўнага складу літаратурнай мовы, дае магчымасць пазбавіцца няўдалых слоў, механічных перакладаў, напаіць літаратурную мову жывымі народнымі сокамі». (С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ПАРТВУЧОБА

У варшаўскім Палацы культуры і навукі адбылося ўрачыстае адкрыццё новага года партыйнай вучобы, падчас якой з прамовай выступіў сакратар ЦК партыі Ян Шыдляк. Сцвердзіў ён, што партвучоба павінна прыносіць членам партыі шырокія ідэйна-палітычныя веды і фарміраваць актыўную паставу ў адносінах да праблем сённяшняга дня. Сёння абазначае гэта канцэнтраванне нашай увагі на эканамічнай праблематыцы. Партвучоба павінна стаць сродкам да перавыхавання партыйных радоў у сувязі са зменамі ў нашай гаспадарчай палітыцы. Гаворачы аб псіхалагічных і сацыялагічных бар'ерах, якія неабходна нам пераламаць па дарозе да далейшага эканамічнага прагрэсу, тав. Я. Шыдляк заявіў: «Трэба ўсведаміць сабе, што перашкоды гэтыя не выступаюць у абстракцыі, або ў бяспечнай ад нас адлегласці, але знаходзяцца яны ў нас саміх — у нашых уласных партыйных і рабочых калектывах». Немагчыма ісці далей без рашучай барацьбы з тупой прывычкай, выгодніцтвам, кансерватызмам, са схільнасцямі да таго, каб хадзіць старымі, уцёртымі шляхамі.

### ЗСП

У сувязі з пачаткам новага акадэмічнага года I сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка прыняў у сябе прадстаўнікоў кіраўніцтва Саюза польскіх студэнтаў (ЗСП). Прадстаўнікі ЗСП паінфармавалі тав. Гамулцы аб галоўных праблемах студэнцкага асяроддзя, аб удзеле студэнтаў у кіраванні вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, аб рэалізацыі студэнцкіх рабочых практык, аб дасягненнях і недахопах саюза. Тав. Уладзіслаў Гамулка падкрэсліў вялікае значэнне і неабходнасць спалучэння выхаваўчай дзейнасці ў вышэйшых навучальных установах з навукова-даследчай працай. I сакратар ЦК партыі падзяліўся таксама з прысутнымі заўвагамі на тэму гаспадарчай сітуацыі краіны і некаторых праблем міжнароднай сітуацыі.

### ПОЛЬШЧА — БАЛГАРЫЯ

Ад 28 верасня да 2 кастрычніка адбылася ў Варшаве X сесія польска-балгарскай камісіі гаспадарчага супрацоўніцтва. Асаблівая ўвага на сесіі прысвечана была развіццю кааперацыі прадукцыі ў такіх галінах, як: марская прамысловасць, электроніка, прадукцыя сродкаў бюровай тэхнікі, электрычных прыбораў.

### У БАЛГАРЫІ

Сонечны водпуск у Балгарыі правяло ў гэтым годзе 1200 польскіх шахцёраў і металургаў разам з членамі іх сямействаў. Лік гэты быў на 500 асоб вышэйшы, чымсьці ў мінулым годзе.

### КАТАСТРОФА

Ноччу з 2-га на 3-е кастрычніка высякачылі з шын апошнія вагоны скорага цягніка з Варшавы ў Закапанэ. На шчасце, у выпадку ніхто не загінуў; было толькі некалькі сур'ёзных параненняў. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### У ФАСТАХ

1 кастрычніка на фастаўскім тэкстыльным камбінаце адбылося выязное пасяджэнне сакратарыята ВК партыі. Тэмай пасяджэння была падрыхтоўка найбольшага беластоцкага прамысловага прадпрыемства да пераходу на новую сістэму матэрыяльнага зацікаўлення. Вёў пасяджэнне I сакратар ВК тав. А. Лашэвіч.

Нягледзячы на вялікія дасягненні ў галіне павелічэння колькасці і якасці прадукцыі, ёсць яшчэ ў працы камбіната недахопы і прадукцыйныя рэзервы. Галоўная мэта, якую ставіць перад сабой калектыў камбіната, — павышэнне якасці тканіны да міжнароднага ўзроўню. А з гэтага вынікаюць і наступныя заданні: далейшая хімізацыя прадукцыі, увядзенне новых тканін і новай тэхналогіі. І ўсё гэта з думкай аб зніжэнні сабекоштаў прадукцыі.

### ПЛЕНУМ ВК СД

У апошніх днях верасня адбыўся чарговы пленум Ваяводскага камітэта Дэмакратычнага странніцтва. Пленум быў прысвечаны актуальным праблемам рамесніцтва і заданням у гэтай галіне ваяводскай арганізацыі СД. У працы прымала ўдзел член Рады Дзяржавы, член Прэзідыума ЦК СД, пасол Беластоцкай зямлі Яўгенія Красоўская.

У дыскусіі шмат увагі было прысвечана лепшай працы рамесніцкіх пляцовак, іх павароту шырэйшым фронтам да насельніцтва, павышэнню прафесіянальнай этыкі рамеснікаў.

### ЗАМЕЖНЫЯ ГОСЦІ

У мінулым тыдні Беласточчыну наведала група прадстаўнікоў дыпламатычных і гандлёвых пляцовак, акрэдытаваных у Польшчы. Замежныя госці пабывалі на найбольшых прадпрыемствах Беласточчыны, агледзелі цікавыя месцы і помнікі нашага горада, а таксама цікавіліся навукова-даследчай працай вучоных у Белавежы. Галоўнай мэтай прыезду замежных гасцей было азнаямленне з экспартнымі магчымасцямі нашага ваяводства.

### ТВП — 20 ГОД

Таварыства распаўсюджвання ведаў (ТВП) святкуе ў гэтых днях 20-годдзе сваёй працы. З гэтай нагоды ў мінулую нядзелю адбыўся ўрачысты пленум ваяводскага праўлення ТВП. Прысутнічалі на ўрачыстым пасяджэнні сакратар ВК ПАРП В. Мікульскі, намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч, сакратар ВК СД Э. Паплінскі, а таксама прадстаўнікі навукі, розных аб'яднанняў і грамадскіх таварыстваў, якія супрацоўнічалі з Таварыствам распаўсюджвання ведаў. Намеснік старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч уручыў арганізацыі ТВП адзнаку «Заслужаны для Беласточчыны». Такую ж адзнаку атрымалі сакратар Ваяводскага праўлення ТВП В. Якубоўскі і шматгадовы супрацоўнік таварыства М. Гайдук. (яч)




**Niedziela 11.X.**

8.05 Program dnia; 8.10 TV Kurs Rolniczy: „Mieszanki przemysłowe w żywieniu zwierząt"; 8.45 „Przypominamy, radzimy"; 8.55 Dla młodych widzów: „TV Klub Śmiałych" — „Złota piłka"; 9.30 „Balonem do Afryki" — film fab. ang.; 10.45 Program filmowy; 12.00 Dziennik; 12.15 „Piosenka dla ciebie"; 13.05 „Na Ziemi Baffine" — film; 13.30 Dla dzieci: I. i J. Sawiccy (wg J. Swifta) — „Guliwer w krainie liliputów" — widowisko Państw. Teatru Lalek „Pleciuga" w Szczecinie; 14.30 „Przemiany"; 15.00 Teatr Niedzielny: Voltaire — „Mikromegas"; 15.50 „Poligon"; 16.20 PKF; 16.30 Turniej Miast: „Zawsze w niedzielę" — Gniezno — Kalisz; 18.30 „Chopin 70" — I serwis filmowy i I etapu Międzynarodowego Konkursu Pianistycznego im. Fr. Chopina; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Trzynogi" A. Osieckiej; 21.05 „Kierunek Berlin" —film fab. pol.; 22.30 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 12.X.**

15.20 i 22. 40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.30 „Echo stadionu"; 18.00 „Balet" — film TVP; 18.30 „Eureka"; 19.00 „Pierwszy biało-czerwony" — film dok. pol.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Piosenki żołnierskie w wyk. solistów Zespołów estradowych Wojska Polskiego; 20.35 Teatr TV: J. Janicki — „W kuźni urodzony"; 21.40 „Rozmowy o książkach"; 21.55 Program filmowy; 22.20 Dziennik.

**Wtorek 13.X.**

8.40 „Miłość Serafima Frołowa" — film fab. radz.; 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Jak powstaje mapa"; 10.20 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — St. Wyspiański „Wesele"; 11.40 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Trawienie i wchłanianie pokarmów"; 13.15 Przerwa; 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.30 „Płuca GOP-u"; 19.00 „Opowieść o Langwedocji" — film Tele-Aru; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Miłość Serafima Frołowa" — film fab. radz.; 21.25 „Kontakty"; 22.00 „Piękny i nieczuły" — nowela filmowa franc.; 22.25 Dziennik.

**Środa 14.X.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Gaz życia"; 9.35 „Zjazd rodzinny" — film ang. („Saga rodu Forsytów") odc. I.; 10.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „O sile i jej mierzeniu";12.25 Przerwa; 12.45 „Wybieramy zawód"; 13.15 Przerwa; 15.20 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Aula"; 17.15 Magazyn ITP; 17.30 Transmisja z meczu piłki nożnej Polska — Albania; W przerwie ok. 18.15 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Zjazd rodzinny" — film ang. („Saga rodu Forsytów"). odc. I; 20.55 „Światowid"; 21.25 PKF; 21.35 „W portowej kawiarence" — program rozrywkowy TV NRD; 22.45 Dziennik.

**Czwartek 15.X.**

8.15 Matematyka w szkole: „Zastosowanie elementów analizy" (zajęcia fakultatywne) IV; 8.45 Przerwa; 9.00 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Złoty wiek Aten"; 9.30 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski „Maria Konopnicka"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Stanisław Wyspiański"; 12.25 Przerwa; 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.40 „Zrób to sam"; 17.55 Reportaż; 18.15 „Alfabet rozrywkowy" — „Od A do A"; 19.00 TV Kurier Białostocki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Przypominamy, radzimy"; 20.05 „Braciszek z Brukseli" — film fab. franc.; 21.45 „Chopin 70" — II serwis filmowy z I etapu VIII Międzynarodowego Konkursu Pianistycznego im. Fr. Chopina; 22.30 Dziennik.

**Piątek 16.X.**

9.00 „Małżeństwo" — film („Szczęście małżeńskie"); 9.25 „Schleicher — generał ostatniej godziny" — film fab. NRF; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Ziarnko do ziarnka"; 11.25 Przerwa; 15.20 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka"; 17.30 „Nie tylko dla pań"; 17.55 „Dumy i ballady" — II program („Polska pieśń artystyczna"); 18.25 Wszechnica TV:„Nasi uczeni" — Włodzimierz Zonn; 19.00 TV Kurier Mazowiecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Małżeństwo" — film („Szczęście małżeńskie"); 20.30 „Kraj"; 21.10 „Schleicher — generał ostatniej godziny" — film fab. NRF; 22.40 Dziennik.

**Sobota 17.X.**

10.00 „Znajoma czy nieznajoma" — film fab. ang.; 11.30 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Z przeszłości geologicznej Polski"); 12.25 Przerwa; 15.05 Program dnia; 15.10 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci'; '15.20 TV Kurs Rolniczy: „Pomoce audiowizualne w szkoleniu rolniczym"; 15.55 Program tygodnia; 16.15 „Oferty"; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Zawody na pięciolinii" — teleturniej muzyczny; 17.25 Dla młodych widzów: „Szpaczki" — rep. film; 17.40 „Spotkania z przyrodą"; 18.05 „Wilanów" — rep. film. („W świecie sztuki"); 18.35 „Tele-Echo"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 „Muzyka i moda"; 21.35 „Znajoma czy nieznajoma" — film fab. angl.; 23.15 „Minstrel Show" — film rozrywkowy.




**Piątek, 9 października**

8.05 Nowiny; 8.15 Tobie, młodości!; 8.45 Film fab. dla dzieci; 10.00 Karuzela; 10.45 Nowiny; 12.45 Program dnia; 12.50 Nowiny; 13.00 Zawody lekkoatletyczne; 14.00 Koncert; 14.30 Filmy animowane dla dzieci; 15.00 Panorama nowin; 15.30 Koncert; 17.00 Film fab. 18.30 Czas; 19.00 Program z Grodna; 19.20 Knot; 19.30 TV teatr miniatur; 20.15 Dla wsi; 21.10 Chodzi Piosenka po świecie.

**Sobota, 10 października**

8.00 Program dnia; 8.05 Gimnastyka; 8.30 Nowiny; 8.45 Dla dzieci; 9.15 Szkatułka muzyczna; 9.25 Białe i czarne; 9.45 Koncert życzeń; 10.30 Przegląd międzynarodowy; 10.40 Program muzyczny; 11.10 Sekretarz rejkomu; 11.30 Film fab.; 13.05 Puchar ZSRR w gimnastyce artystycznej; 14.15 Uniwersytet TV; 16.00 Nowiny; 16.05 Kronika półwiecza. Rok 1955; 17.00 Hokej „Spartak" — CSKA; 19.30 Czas; 20.00 W eterze „Młodość"; 21.30 Nowiny.

**Niedziela, 11 października**

8.00 Dla wsi; 8.15 TV mecz: Mińsk — Brześć — Grodno; 9.15 Dla młodzieży; 10.15 Człowiek ziemi mojej; 10.45 Filmy animowane; 11.30 Ziemia i ludzie; 12.00 Dla uczniów; 13.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — „Spartak" (Moskwa); 14.45 Kiosk muzyczny; 15.15 Dożynki; 16..00 Nowiny; 16.05 Klub filmowy; 17.10 Koncert; 18.30 Czas; 19.00 Panorama filmowa; 20.30 Puchar ZSRR w gimnastyce artystycznej; 21.00 Koncert; 21.45 Nowiny.

( Працяг са стар. 1)

# Дыскусійная трыбуна



водскімі, каб былі ў ваяводскіх планах працы. Каб не было так, што Таварыства толькі свае конкурсы і агляды праводзіць, але каб усё было супольна і супольна планавалася. Мы, мясцовыя органы культурнай працы, — аддзелы асветы і культуры, дамы культуры, парадні, павінны мець выразна зверху ўказана, што будзе рабіцца і калі. Тады нам лёгка рэалізаваць план, тады лепш планаваць фінансы. Напрыклад, конкурс ТППР на савецкую песню. Праводзім яго фактычна мы. Чаму не можа так быць з конкурсам беларускай песні? На мой погляд, беларуская нацыянальная група на Беласточчыне ўзбагачае культурныя дасягненні ўсяго ваяводства, і таму гэтыя справы павінны знайсці месца ў агульнаваяводскіх планах культурнай дзейнасці.

Дагэтуль супрацоўніцтва таварыства было крыху выпадковае. У нас у павеце рабілася па прынцыпу: ты мне пamажы, то памагу і я табе. А рэч жа ідзе пра агульную праблему, а не аднаразовую.

Справа рэпертуару. Калі арганізуем конкурс песні, трэба людзям даць матэрыял, даць конкурсныя песні, каб яны не блудзілі. Або п'есы для драмгурткоў — я не бачыла беларускай п'есы без бутэлькі на стале. Гэтыя ж п'есы ставяцца і вучнямі.

Усё гэта вымагае каардынацыі на ваяводскім узроўні. Калі справы будуць вырашаны тут у ваяводстве, тады паветам і грамадам стане лягчэй і лепш.

## НЕ РАЗМЕНЬВАЦЬ СІЛ

ЯНКА ІВАНЮК — *старшыня павятовага аддзела БГКТ у Гайнаўцы, дырэктар Беларускага ліцэя.*

Пачну ад ГП: тут трэба стварыць добры штаб працаўнікоў, выпрацаваць праграму на будучыню. Мы, грамадскі актыў, адчуваем недахоп інструктажу з боку штатных працаўнікоў ГП. Роля іх не павінна зводзіцца толькі да таго, каб засыпаць аддзел лістамі,



але і да таго, каб прыехаць, даць дапамогу і арганізацыйную і метадычную. Жывыя, а не бюракратычныя кантакты нам патрэбныя.

Праз актыў аддзела добра дайсці да гуртка. Калі ў нашым, для прыкладу, гуртку ў Семяноўцы добры актыў, то і праца там ідзе.

Формы працы. Ёсць добрыя старыя, напрыклад, супрацоўніцтва з палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі і ўстановамі. У гэтай справе вельмі многа зрабілася ад часу, калі прыйшоў у Таварыства тав. Зенюк. Па гэтай дарозе трэба ісці далей. Я супраць таго, каб дзяліць: вось гэта праца беларуская, а гэта іншая, хоць лічу, што арганізацыя павінна захаваць свой воблік. У нас цяпер добра супрацоўнічаюць з маладзёжнымі арганізацыямі, з ПЗГС-ам. Не наладзілі мы сувязі з прамысловымі прадпрыемствамі горада, пакуль гэта не выходзіць.

У супрацоўніцтве з аддзеламі культуры хоць зроблена многае, ёсць яшчэ аднак недахопы ў самой арганізацыі розных культурных мерапрыемстваў, як агляды, конкурсы. Можна тут адчуць малаватае ўзаемнае зацікаўленне. Здаецца мне, што такое зацікаўленне не было таксама на ўзроўні ваяводства, ды і павета. Прызнаем тут і сваю віну.

Як прыцягнуць моладзь да грамадскай дзейнасці ў БГКТ? Нашы цяперашнія формы дзейнасці далёка ніжэйшыя, чым мы бачым у тэлевізіі ці чуем па радыё. І людзі самі адчуваюць свае недахопы і не хочуць пачынаць абы як. Наогул больш бы зрабіў адзін добры павятовы калектыў, дык ці варта разменьваць сілы на розныя слабыя гурткі і гурточкі ў вёсках?!

## БЫЦЬ ЛЮДЗЯМ ПАТРЭБНЫМІ



НІНА ЦЫВАНЮК — *грамадскі дзеяч з Гарадка.*

Мы, Гарадок, ад ГП вымагаем мала, у нас сваіх сіл хапае. Аднак БГКТ больш павінна высылаць сваіх штатных працаўнікоў не толькі ў калектывы, якія іх дапамогі патрабуюць, але таксама і ў тыя, якія патрабуюць яе менш. Трэба пагаварыць з усімі, падтрымаць людзей у рабоце. Лічу, што нават сам сакратар ці старшыня — адным словам усе асобы высокапастаўленыя ў таварыстве — павінны таксама прыязджаць у вёску. У нас, напрыклад, у калектыве амаль адны замужнія жанчыны. І тут важна, каб іх мужыкі бачылі, што іхніх жонак адведваюць улады і цікавяцца іхняй працай, адным словам, што праца гэтая людзям патрэбна.

Рэпертуар. Мы ў Гарадку на яго не наракаем. Але можна ў нас у Гарадку зрабіць добры драматычны калектыў. Толькі дзе ні глянь у беларускую п'есу — усюды гарэлка!

Павінна старацца ГП, каб для культурных дзеячаў арганізаваць выезды ў іншыя раёны краіны. А з іншых няхай прыязджаюць да нас, будзем абменьвацца вопытам. Чалавек ведаць будзе тады, што праца яго не служыць яму самому, але што цікавіць іншых.

## ВЁСКУ ТРЭБА ЛЮБІЦЬ



АНАТОЛЬ МАРТЫНОВІЧ — *кіраўнік школы ў Вілянове, Сямяціцкі павет, старшыня аддзела БГКТ*

Культурная праца на вёсцы нялёгкая. Не маем тут патрэбных кадраў. Працу гэтую выконваюць пераважна настаўнікі, якія не маюць спецыяльных кваліфікацый у гэтай галіне. Таму аддзелы культуры і асветы, а на ўзроўні ваяводства Кураторыя ў паразуменні з аддзелам культуры Прэз. ВРН павінны старацца, каб у большыя школы на вёсках даваць настаўнікаў, якія прайшлі ці то спецыяльную музычную адукацыю, ці вучыліся гэтаму на СН-ах. Такія настаўнікі зробяць на вёсцы вельмі многа ў галіне мастацкага руху.

Каб на вёсцы нешта зрабіць, трэба яе любіць і не думаць аб тым, каб як найхутчэй адсюль уцякаць. Старацца трэба даць людзям ў іх цяжкай працы адпачынак, ды развесяліць іх.

Абавязкова трэба, і то як найхутчэй, уладзіць справу выездаў настаўнікаў на розныя курсы ў краіне і ў БССР.

Я — энтузіяст грамадскіх зрухаў у вёсцы. Для мастацкага вясковага руху не бачу канкурэнцыі ў тэлевізіі ці радыё. Тэлевізія не забяспечыць патрэбы жывой дзейнасці жывых людзей. Вельмі важна тое, што людзі самі ў сваім гуртку працуюць і ствараюць пэўныя культурныя факты. Гэтага нельга не бачыць у нашай культурнай працы.

Рэпертуар наш бедны. Нашыя аўтары напісалі пару п'ес даволі неакрэсленага характару. А вёсцы трэба або камедыю і то бясспорную, або калі драму — то сапраўдную, моцную, а не меладраму накшталт «Люцынкі-інжынерыхі».

Сцвярджаю арганізацыйную няспраўнасць у дзейнасці Таварыства. І для прыкладу падаю конкурс на сценгазету. Тэрмін быў да красавіка. Людзі нашы зрабілі 3 ленінскія сценгазеты і выслалі мы іх у ГП. А ведаем, што іншыя аддзелы зусім не трымаліся тэрміну. Людзі нашы чакаюць усё яшчэ адказу. Нервуюцца і рукі ў іх ападаюць з бязраднасці. Вывад такі, што арганізацыйная і прапагандовая дысцыпліна ў дзейнасці таварыства павінна быць адным з галоўных заданняў.

Трэба старацца і на нашых вёсках арганізаваць больш клубаў «Руху», «Рольніка». У нашым павеце асабліва сетка такіх устаноў рэдкая. Людзі нават сабрацца не маюць дзе. Святліцы? Што гэта за святліца, дзе толькі чатыры сцяны? У святліцах праца неяк не разгортваецца. Адны забавы тут ідуць.

## ВЕЧАРЫНЫ

ЗОФІЯ СТАСЬКЕВІЧ — *кіраўнік клуба ГП БГКТ*

Наш клуб ад пачатку ўвайшоў, здаецца, на кепскую дарогу — зрабіўся зборышчам розных элементаў. Спачатку было замала звернута ўвагі на падбор наведвальнікаў, кіраваліся тым, каб як найбольш іх было. Гэтак мы, няхочучы, выэлімінавалі людзей сур'ёзных і вартасных. Дайшло да таго, што і цяпер ёсць многа такіх, якія тут не павінны быць, бо дрэнна ўздзейнічаюць на іншых.



А клуб як адзіны беларускі клуб у горадзе павінен гуртаваць у першую чаргу ўсіх, хто цікавіцца беларускай праблематыкай. Неабходныя намаганні актыву ў тым напрамку, каб стварыць у клубе культурнае асяроддзе. Формы тут бачу розныя. Важнейшым, здаецца мне, было б існаванне калектыву вакальна-гумарыстычнага, самадзейнага. Не можа ён аднак працаваць самапас, а толькі пад вопытным фаховым кіраўніцтвам. Каб мог такі калектыў існаваць, трэба забяспечыць яго праграмай, для стварэння якой павінны сістэматычна працаваць нашыя пісьменнікі і паэты. Бо як дагэтуль, пішуць яны больш сабе і музам, а не на пацеху людзям. Калектыў такі не для забавы служыў бы, а для культывавання нашых традыцый ў Польшчы. Можна б тут гаварыць пра сістэматычныя клубныя вечарыны з удзелам запрошаных вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў культуры.

У галіне супрацоўніцтва Таварыства з культурнымі ўстановамі ваяводства неабходна, каб, наш клуб заняў раўнапраўнае месца сярод усіх культурна-асветных пляцовак ваяводства і карыстаўся прывілеямі арганізацыйных, фінансавых і інструктажовых аддзелаў культуры, ваяводскага дома культуры, культурна-асветных парадняў.

Клуб наш не можа быць трактаваны як выключна падапечны Таварыства, таму не павінен застацца паза праграмовай дзейнасцю ўсіх культурна-асветных устаноў ваяводства.

*Вяла дыскусію*

*Вера Леўчук*

*Фота Цаф — Сянько*

# ШТО ЧУВАЦЬ?

### ЯШЧЭ ПРА ШКОЛЫ

У Беластоцкім ваяводстве ў мінулым школьным годзе было амаль паўтары тысячы пачатковых школ. Сярод іх было 1079 васьмікласных і звыш 400 чатырохкласных школ.

У гэтым навучальным годзе на тэрыторыі Беласточчыны спыніла працу аж 13 васьмікласных школ. Проста не хапіла ім адпаведнай колькасці вучняў, каб маглі яны існаваць. Спецыялісты гавораць, што ўвайшлі мы ў перыяд дэмаграфічнай дэпрэсіі, якая ў наступных гадах будзе яшчэ паглыбляцца.

### У БЕЛАВЕЖЫ

Мікалай Седун пасля васьмі год працы адмовіўся ад пасады старшыні прэзідыума ГРН у Белавежы. На яго месцы радныя Белавежскай грамады выбралі грамадзяніна Уладзіслава Ляпруса, які дагэтуль быў ляснічым у Звежынецкім надлясніцтве. Таварыш Ул. Ляпрус мае сярэднюю адукацыю, ён закончыў белавежскі лясны тэхнікум.

У Сточку, Заставе і на Будах у Белавежы зараз праводзяць камасацыю зямлі. Новы надзел зямельных дзялянак праходзіў спраўна і спакойна. Людзі пачалі сварыцца толькі тады, калі прыйшлося раздзяляць пляцоўкі на сялянскія сялібы.

У Падалянах і Пагарэлцах камасацыя была праведзена два гады таму назад.

### ПРА ГАДОЎЦАЎ БЕЗ ЗЯМЛІ

На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства знаходзіцца звыш 180 тысяч гаспадароў, якія маюць уласную зямлю. Каб магчы ўмела гаспадарыць, яны вымушаны разводзіць жывёлагадоўлю. Гэта поўнасцю зразумела і апраўдана. Аднак апошняя перапіска сельскагаспадарчай маёмасці выявіла, што ў Беластоцкім ваяводстве знаходзіцца амаль 7 тысяч беззямельных жывёлагадоўцаў. Гэта перш за ўсё рабочыя і так званая вясковая інтэлігенцыя: сем'і настаўнікаў, аграномаў, працаўнікоў ГС-аў і ГРН-аў. Жывёлагадоўляй, асабліва гадоўляй свіней, даволі часта займаюцца гаспадыні ў мястэчках і гарадах. Такім чынам яны папаўняюць свой сямейны бюджэт.

### ПРА ЗЯЛЁНАЕ БАГАЦЦЕ

Звыш 30 працэнтаў (дакладна 31,2%) тэрыторыі Беластоцкага ваяводства займаюць зялёныя ўгоддзі. Складае гэта 464.100 гектараў. Зялёныя ўгоддзі з'яўляюцца тады сапраўдным багаццем нашага ваяводства.

Сяляне аднак яшчэ дагэтуль не паспелі навучыцца добра выкарыстоўваць гэтае багацце. Сельскагаспадарчыя спецыялісты ўстанавілі, што найчасцей здараецца так, што сяляне зусім не даглядаюць пасбішчаў, слаба ўгнойваюць сенажаць, рэдка калі ўгнойваюць тыя дзялянкі, дзе пасвяцца каровы, вельмі часта пасуць традыцыйна цэлай чарадой і без ніякай агароджы. Быдла больш тады патопча травы, чымсьці з'есць.

Каб навучыць, як трэба гаспадарыць на зялёных угоддзях, сельскагаспадарчая служба абсталявала 368 прыкладных пасбішчаў. Іх уласнікі атрымалі ад дзяржавы выдатную дапамогу ў якасці штучнага ўгнаення.

### КВАТЭРЫ ДЛЯ РАБОЧЫХ

Хімічная фабрыка ў Гайнаўцы пастаянна разрастаецца. Праз 5 год будзе тут працаваць амаль 1000 рабочых. Каб забяспечыць кватэры для спецыялістаў, гайнаўская хімічная фабрыка запланавала будову двух жылых карпусоў для 60-ці сем'яў. Грошы на гэтую будову ўжо ёсць.

*Падслухаў М. Нурэцкі*

 

# ПЛАНЫ КАЗІМЕЖА ЯНКОЎСКАГА

Мая гутарка з кіраўніком аддзела культуры ПРН у Дуброве Казімежам Янкоўскім была дзелавой. Можа таму, што мясцовыя павятовыя ўлады справам культуры прысвячаюць куды больш увагі, чым у любым іншым павеце. Янкоўскі адчувае, што яго дзейнасць патрэбная, надта патрэбная.

Сам ён, зрэшты, стаў кіраўніком культуры, відаць, не таму, што трэба адукаванаму чалавеку заняць нейкую пасаду. Казімеж Янкоўскі сардэчна зацікаўлены гэтай зямлёй, працуе навукова ў галіне яе гісторыі. Цікавіцца паходжаннем назваў паасобных мясцін, напісаў працу на гэту тэму.

Якая база для культурнай дзейнасці ў Дуброўскім павеце? Невялікая, пакуль што невялікая — не так даўно тут наогул нічога не было. Цяпер: 16 вясковых бібліятэк, дзевяноста бібліятэчных пунктаў, шаснаццаць клубаў «Руху», чатырнаццаць клубаў гаспадара, дзесяць святліц, 5 кінаўстановак, 22 школьныя мастацкія калектывы, два духавыя аркестры — той, з Сухаволі, нават выязджаў на заграцічнае турнэ па Літве. Ну, і павятовая парадня культурна-асветнай дзейнасці. Гэта, бадай, усё.

Янкоўскі — рэаліст; ведае, што грунтоўная культурная дзейнасць магчыма перш за ўсё дзякуючы настаўнікам. Верыць у запал моладзі, у запал ЗМВ ці БГКТ, але не будуе на гэтым запале ледзяных замкаў культуры. Настаўнікі — вось тыя сапраўдныя крыніцы дзейнасці, саліднай і трывалай, несезоннай і доўгатэрміновай.

У апошні час займаецца арганізацыяй павятовага дома культуры. Будынак на тое ёсць, стары але салідны, падрамантаваць яго (грошы ёсць), і добры будзе.

Янкоўскі памалу канчае будаванне архітэктуры павятовай культуры, ставіць ужо кроквы і рыхтуе «кветку».

«Кветкай» гэтай, на думку Казімежа Янкоўскага, павінен быць Беларускі рэгіянальны дом культуры ў Ячне. Марыць ён аб гэтым. Ужо бачыць, што трэба для гэтага. Фактычна не так і многа трэба: найперш абгарадзіць, выгнаць краму з будынка будучага дома культуры ў Ячне, падшукаць інтэлігентнае кіраўніцтва (ёсць людзі на ўвазе). Гэта будзе завяршэннем будавання канструкцыі той жа павятовай культуры. Станецца гэта пасля новага года, значыць, у 1971-ым. Тады застанецца мураваць сцены, цэгла па цагліне, гурток за гуртком, пакуль уся Дуброўшчына не дараўняе іншым, перадавым паветам Беласточчыны. Во, напрыклад, ужо мясцовая дэлегатура «Руху» заняла першае месца ў Польшчы ў пашырэнні савецкіх газет ды часопісаў. — Асаблівую ўвагу трэба будзе ўдзяліць беларускім савецкім, — дадае Янкоўскі.

Потым кажа:

— Слухайце, у нас ёсць вёска, на-



*У каго найлепш лягла скіба?*



*Трактарысты з Піражкоў Ю. Кудэрка і А. Лапата — апошнія папраўкі перад ворывам.*

# КОНКУРС ВОРЫВА

Ад добрага ворыва залежыць плён — так гавораць старыя людзі. І таму многа часу прысвячалася на навуку ворыва валамі ці канём. Калі малады чалавек умеў проста вывесці склад і добра пакласці скіба на скібу, толькі тады мог быць прызнаны гаспадаром.

Такія крытэрыі ацэнкі гаспадароў і такія ж патрабаванні зямлі ёсць і сёння. Мала таго. Сёння, калі нашая вёска паглынае ўсё больш машын і трактараў, калі ўсе змагаюцца за інтэнсіфікацыю сельскай гаспадаркі, гэтыя патрабаванні вымагаюць больш ведаў і ўмеласці. Як выдайней, танней і бяспечней працаваць — вось пытанне, на якое кожны год трэба даваць адказ.

Ворыва трактарам — гэта адна з найцяжэйшых і патрабуючых добрых умеласцей палявых работ. Напрыклад, ад таго, ці трактарыст зробіць уласціва склад загона ці не, залежыць, ці будзе ў гэтым месцы расці асот ці не і т.п.

Каб паднесці ўзровень трактарыстаў у гэтай галіне і, зразумела, каб ацаніць ступень падрыхтоўкі да ворыва, арганізуюцца павятовыя конкурсы ворыва.

IX конкурс ворыва адбыўся ў Сакольскім павеце ў мясцовасці Астравок ГРН Шудзялава. Конкурс адбываўся на грунтах дзяржаўнага фонда зямлі, якія арандуе сельгасгурток у Піражках.

У конкурсе ворыва мелі права ўдзельнічаць трактарысты сельгасгурткоў і іншых устаноў, якія маюць трактары і адпаведныя прылады. Але каб быць дапушчаным да конкурсу, трэба было мець адпаведны тэхнічны стан трактара і прылад. Напрыклад, каб камісія закваліфікавала да конкурсу, трэба было мець чысты і добра дагледжаны плуг і трактар, мець у парадку рэгулюючыя прылады, мець камплект прылад і запасных часцей.

Закваліфікаваныя трактарысты і трактары мелі за заданне заараць поле велічынёй па 20 араў, на 20 см глыбіні, на працягу 35 мінут. З тым, што палова поля павінна была быць заворана ў склад, а другая палова — у роскідзе. Найлепшым аказаўся трактарыст Міхал Дабрэнчык у МБМ у Крынках, Юзэф Кудэрка з сельгасгуртка ў Піражках заняў другое месца, а Браніслаў Сіпко з МБМ у Крынках — трэцяе. Далейшыя месцы атрымалі: Яўгені Мякіш з Паўночнага Вострава, Казімір Кандрат з Саколкі, Анатоль Лапата з Піражкоў, Ян Куклік з Паўднёвага Вострава і Юры Пучкелевіч з Крушынян. Трактарысты атрымалі дыпломы і грашовыя ўзнагароды.

*А. К.*

*фота аўтара*



*Пераможцы атрымліваюць ўзнагароды.*

# Перадавыя

На тэрыторыі ГРН Заблудаў амаль усе вёскі электрыфікаваныя. У 1971 годзе электрычны ток атрымаюць вёскі Крыніцкія, Гнецюкі, Астравок, Козлікі і калёніі Заблудаў. Меліяравана і загаспадаравана тут 702 га лугоў і сенажацяў. Існуючая МБМ (міжгуртковая машынатрактарная база) налічвае 15 трактараў з поўнымі камплектамі падвесных сельскагаспадарчых машын.

Да перадавых гаспадароў належаць тут: Станіслаў Самсановіч з калёніі Заблудаў, Антон Андрэйчук з Гнецюкоў і Антон Даковіч з Пратасаў.

Станіслаў Самсановіч добра вядзе сваю гаспадарку, гадуе 8 кароў і столькі ж свіней. Ад аднае каровы атрымоўвае ў сярэднім па 3600 літраў малака ў год. Штогод вырошчвае ён высокія ўраджаі: жыта — не менш як 25 цэнтнераў з 1 гектара, пшаніцы — 25 цэнтнераў з 1 га, ячменю — 30 цэнтнераў з 1 га. Пад траву дае ён вялікую колькасць мінеральных угнаенняў. Сярэдняя даўка пад збожжавыя культуры даходзіць у яго да 253 кілаграмаў НПК у чыстым складзе.

Высокія ўраджаі травы забяспечваюць дастатковую колькасць пашы каровам. Каб мець зялёную пашу зімою, Станіслаў Самсановіч пабудаваў два сіласы.

Антон Андрэйчук з Гнецюкоў гаспадарыць на 7,5 га зямельных угоддзяў. Гадуе ён 9 кароў і надойвае ў сярэднім 4100 літраў малака ад аднае каровы ў год. Малако прадае дзяржаве. Ад двух свінаматак мае каля 20 парасят у год. Дае на 1 гектар па 160 кілаграмаў НПК у чыстым складзе і атрымлівае па 20 цэнтнераў жыта з 1 га, 22 цэнтнеры пшаніцы, 26 цэнтнераў аўса, 32 цэнтнеры ячменю. На лугі і сенажаці высейвае па 249 кг НПК у чыстым складзе.

Антон Даковіч гаспадарыць на 5,72 га зямельных угоддзяў. Гадуе 8 кароў. У сярэднім надойвае 3300 літраў малака ад аднае каровы ў год, мае 3 свінаматкі. Сее на 1 га зямлі па 210 кілаграмаў НПК у чыстым складзе. Збірае па 29 цэнтнераў жыта з 1 га, 27 цэнт-




## Іван Конеў

МАРШАЛ САВЕЦКАГА САЮЗА

Трэба шчыра сказаць, што такіх гіганцкіх бітваў, якія разгарнуліся на тэрыторыі Польшчы, не было ў гісторыі войнаў. Толькі ў перыяд правядзення Вісла-Одэрскай аперацыі два франты — 1-ы Беларускі і І-ы Украінскі — мелі агульную колькасць войск 2400 тысяч чалавек, што дало магчымасць дасягнуць буйных поспехаў у разгроме галоўных сіл нямецка-фашысцкіх груп армій «Цэнтр» і «Паўночная Украіна».

У выніку стратэгічнага наступлення, якое разгарнулася летам 1944 г. на Беларусі і на Заходняй Украіне, савецкія войскі, у саставе якіх дзейнічала І-ая Польская армія, прасунуліся на захад на 350—600 кіламетраў і вызвалілі амаль усе польскія землі на ўсход ад Нарава і Віслы.

Разгортванне ўзброеных сіл маладой Польскай Народнай Рэспублікі адбывалася пры ўсебаковай брацкай дапамозе Савецкага Саюза. У ходзе вайны ўрад СССР перадаў у распараджэнне Войска Польскага звыш 400 тысяч вінтовак і аўтаматаў, звыш 19 тысяч кулямётаў, 4.800 мінамётаў, каля 6.800 гармат, звыш 500 танкаў, 630 самалётаў, вялікую колькасць боепрыпасаў, гаручага, прадуктаў харчавання і абмундзіравання.

Па просьбе польскіх сяброў савецкае камандаванне накіравала ў польскую армію вялікую групу афіцэраў. Камандзіраваныя ў Войска Польскае на кіруючыя пасады або ў якасці інструктараў-спецыялістаў, савецкія афіцэры аказвалі значны ўплыў на будаўніцтва ўзброеных сіл народнай Польшчы і фарміраванне новага афіцэрскага корпуса. У перыяд баявых дзеянняў савецкія афіцэры складалі прыкладна палавіну афіцэрскага саставу Войска Польскага. Па часе падрыхтоўкі польскіх кадраў савецкія афіцэры адклікаліся з Войска і вярталіся на Радзіму.

Разам з Савецкай Арміяй злучэнні Войска Польскага прымалі актыўны ўдзел у баях за вызваленне Польшчы ад гітлераўскіх акупантаў. І-я Польская армія пад камандаваннем генерала С. Паплаўскага, якая ўваходзіла ў састаў І-га Беларускага фронта, прымала ўдзел у вызваленні Варшавы, у прарыве вельмі ўмацаванай лініі абароны гітлераўцаў — «Паморскага вала», вяла баі за Калабжэг, а на заключным этапе вайны прымала ўдзел у Берлінскай аперацыі. Упартыя баі з гітлераўцамі вялі таксама 2-я армія Войска Польскага пад камандаваннем генерала К. Свярчэўскага, які прымаў удзел у Берлінскай і Пражскай аперацыях у складзе І-га Украінскага фронта.

Я добра памятаю ўмовы, у якіх змагалася 2-я армія Войска Польскага ў Берлінскай аперацыі. Праводзячы ў ноч на 23-е красавіка перагрупоўку сваіх войск і намацаўшы стык паміж 52-й арміяй генерала Карацеева і 2-й Польскай арміяй, гёрліцкая групоўка гітлераўцаў, наступаючы ўздоўж ракі Шпрэе, нанесла ўдар па 48-му корпусу арміі Карацеева. Агульны напрамак яе ўдараў ішоў на Шпрэмберг. Дапускаю, што нямецкае камандаванне дакладна не ведала аб ліквідацыі шпрэмбергскай групоўкі, і імкненне злучыцца з ёю адыграла сваю ролю ў напрамку ўдару. Ва ўсякім выпадку, калі б мы своечасова не пакончылі са Шпрэмбергам і з усім, што там было, на нашым левым фланзе стварылася б, не скажу — крытычнае, але дастаткова складанае становішча. З раніцы ўдарная групоўка нямецкіх войск — дзве дывізіі і каля ста танкаў — перайшла ў наступленне, прарвала фронт 48-га корпуса 52-й арміі, прасунулася на поўнач на дваццаць кіламетраў і выйшла ў тылы 2-й Польскай арміі.

Частка дывізій Польскай арміі, якія правым флангам прымыкалі да арміі Жадава, пасьпяхова рухалася ў гэты час на захад, а на яе левым фланзе ўдар нямецкай групоўкі прыйшоўся па самым слабым месцы — па тылах, якія да таго ж моцна расцягнуліся і знаходзіліся ў гэты час у руху. У выніку гэтага ўдару было парушана баявое ўзаемадзеянне некаторых злучэнняў і сувязь паміж імі. Такая абстаноўка была б складанай для любой арміі, якая прайшла доўгі баявы шлях. Тым больш была яна чуллівай для 2-й Польскай арміі, бо Берлінская аперацыя была першай бітвай, у якой яна прымала ўдзел. Тым не менш польскія воіны праявілі вялікую мужнасць і пасля некаторага замяшання ў першы момант прарыву, перавярнуўшы фронт на 180 градусаў, білася з нарастаючай стойкасцю і адвагай.

У сувязі з абстаноўкай, якая склалася, я прыняў меры, каб ліквідаваць прарыў, а ў далейшым — поўнасцю разграміць гёрліцкую групоўку нямецкіх войск. Я разумеў, што прадпрымаючы гэты даволі моцны флангавы контрудар, нямецкае камандаванне імкнулася стварыць крызісную абстаноўку на ўсім левым фланзе нашых войск і паўплываць на ход аперацыі на галоўным — берлінскім — напрамку. Але такая задача была ўжо яму не па сілах.

Крызіснага становішча нямецка- фашысцкаму камандаванню стварыць не ўдалося. Контрудар не выклікаў самых малых змяненняў у нашых асноўных планах. Мы правільна зрабілі, не пашкадаваўшы сіл і сродкаў на ліквідацыю абедзвюх нямецкіх груповак на флангах нашага прарыву — шпрэмбергскай і котбускай. Калі б мы зацягнулі з гэтым, дык контрудар гёрліцкай групоўкі быў бы значна больш стратным для нас. А цяпер гэты ўдар ужо спазніўся. Для разгрому гёрліцкай групоўкі нам ужо не трэба было аслабляць свае сілы, якія наносілі ўдар па Берліну. Ацэнкай рэальнага становішча і былі прадыктаваны мае рашэнні.

Праз суткі, пад вечар 24-га красавіка, войскам 2-й Польскай арміі, 52-й арміі, двум корпусам 5-й гвардзейскай арміі і танкаваму корпусу Палубаярава П.П. удалося прыпыніць наступлен-



 

зываецца Гарадзішчаны (колішняе Гарадышча), дзе захавалася замілаванасць да беларускіх народных спеваў... Слухайце, трэба гэта вынатаваць, уратаваць і для навукі, і для будучых пакаленняў... Можа хор там... так, можа хор там удасца зладзіць, ёсць там такі адзін, хто мог бы гэта...

Гэта быў канцовы акорд нашай гутаркі: стварэнне хору ў Гарадзішчанах. Янкоўскі, як рэаліст, ведае, што нельга замнога спадзявацца на нейкую дапамогу, тым больш дапамогу далёкую, з далёкага Беластока. Калі ён загаварыў аб Гарадзішчанах, значыць, нешта ўжо пастанавіў, нешта падлічыў: хор у Гарадзішчанах будзе. Янкоўскі ўжо падшукаў кагосьці, хто зможа кіраваць хорам.

С. Я.

## гаспадары

нераў пшаніцы з 1 га, 26 цэнтнераў аўса з 1 га, 34 цэнтнеры ячменю з 1 га, 200 цэнтнераў бульбы з 1 га. З сенажацяў збірае дастаткова высокую колькасць пашаў і зялёнак.

А Пётр Рагульскі з Фальваркаў Тыльвіцкіх мае 8-гектаровую гаспадарку. Гадуе 9 кароў, для якіх пабудаваў кароўнік з аўтаматычнымі паілкамі. У сярэднім надойвае ён ад каровы па 4 тысячы літраў малака. Пад збожжавыя культуры высейвае 180 кілаграмаў НПК у чыстым складзе, а на лугі 250 кілаграмаў НПК на 1 гектар. Жыта збірае 20 цэнтнераў з 1 га, аўса — 25 цэнтнераў з 1 га, ячменю — 28 цэнтнераў з 1 га, пшаніцы — 26 цэнтнераў з 1 га.

З сенажацяў накошвае з аднаго гектара 100 цэнтнераў травы. Дзяржаве здае 1500 кг валавіны і 800 кг свініны.

Пётр Рагуцкі з'яўляецца членам ЗСЛь, шмат працуе грамадскім чынам, між іншым, з'яўляецца радным ГРН і старшынёю мясцовага сельскагаспадарчага гуртка.

*Я. Цялушэцкі*

## ЧЫТАЙ САВЕЦКУЮ ПРЭСУ

Да 10 лістапада 1970 г. усе аддзелы і дэлегатуры ПУПіК «Рух» у Беластоку прымаюць падпіску на савецкую прэсу на 1971 г.

Дзяржаўныя і грамадскія ўстановы, школы і прадпрыемствы робяць падпіску выключна ў мясцовым, найбліжэйшым аддзеле ці дэлегатуры «Руху». Прыватныя падпісчыкі на савецкую прэсу робяць падпіску ў найбліжэйшых аддзелах, дэлегатурах «Руху», ва ўсіх клубах прэсы і кніжкі «Рух», альбо ў акрэсленых кіёсках «Руху».

У Беластоку падпіску прымае I раённы аддзел «Руху», вул. Каперніка 93.



Сустрэчы з «Нівай»

# ЗУБАЧОЎСКІЯ КРЫЎДЫ

У Зубачах я быў не першы раз і заўсёды выязджаў з гэтай вёскі ў сумным настроі. Сітуацыя Зубачоў тыповая для тых вёсак, якія знаходзяцца на мяжы двух паветаў і адкуль усюды далёка. З Зубачоў далёка і ў Сямяцічы, і ў Гайнаўку, і ў Бельск. І, мабыць, з гэтакай сітуацыі родзіцца ў мясцовых людзей адчуванне бязраднасці, перакананне, што ніхто іх у лад не выслухае.

Зубачы крыўдуюць на многіх і на многае. Але як заўсёды бывае з крыўдамі — ёсць адна крыўда, з якой родзяцца іншыя. Адна найважнейшая крыўда. Гэтай крыўдай з'яўляецца тое, што зубачоўская школа не атрымала новага будынка. Будынак, які ёсць, памятае, мабыць, яшчэ часы дзейнасці Віленскай Куратарыі князя Чартарыйскага ў першай палове мінулага стагоддзя. Найбольш старыя людзі на працягу апошніх трыццаці год не маглі сабе прыпомніць, калі гэта мог быць пабудаваны будынак зубачоўскай школы? А некаторыя з тых людзей жылі каля сотні гадоў...

Цяпер, каб будынак гэты не заваліўся на галовы дзяцей і настаўнікаў, стаіць падпёрты не абы-якімі бэлькамі. Павятовыя ўлады ў Сямяцічах ужо шэраг гадоў ставяць на першым месцы справу будовы новага будынка для школы ў Зубачах. Зараз тэрмін пабудовы перасунуты на гады 1973—74. Кошт пабудовы — каля чатырох мільёнаў злотых. Беластоцкая Кураторыя школьнай акругі наракае на павятовыя ўлады ў Сямяцічах, бо змарнавалі яны ўжо добрых некалькі мільёнаў злотых, прызначаных на школьнае будаўніцтва. Змарнавалі яны гэтыя мільёны таму, што не здолелі яшчэ арганізаваць у Сямяцічах будаўнічай фірмы; абмяжоўваюцца да тых невялікіх магчымасцей, якія здольная даць ім будаўнічая фірма ў Бельску. Бельская ж фірма, вядома, дбае перш за ўсё аб сваім павеце...

У 1965 годзе вёска Зубачы надумалася змяніць сваю павятовую прыналежнасць з сямяціцкай на гайнаўскую. Былі высунуты важкія аргументы: да Гайнаўкі з Зубачоў даехаць куды прасцей, чымсьці ў Сямяцічы. Досыць зайсці на недалёкую чыгуначную станцыю ў Чаромсе, і чалавек ужо адчувае сябе, як бы ў Гайнаўцы: з Чаромхі частыя цягнікі да Гайнаўкі. А каб у Сямяцічы заехаць па справе, трэба спачатку ісці кіламетраў шэсць у Клюковічы, адтуль ездзіць аўтобус у Сямяцічы. Аўтобус, які не заўсёды ўсіх возьме ў сваё нутро, а ў зімовыя завірухі наогул не з'яўляецца ў Клюковічах часамі цэлымі тыднямі. Зубачы адчуваюць сябе адрэзанымі ад свету. Сямяціцкія прадстаўнікі прасілі зубачоўцаў не адлучацца, бо і так Сямяціцкі павет невялікі, а быў бы яшчэ больш меншы. Зубачы засталіся ў сямяціцкіх граніцах.

І зноў адной з прычын гэтай гісторыі была школа, будова якой мела якраз тады пачацца — і не пачалася. У Зубачах перакананы, што гайнаўскія ўлады так не цягнулі б цэлай гэтай справы.

А Сямяціцкі павет бедны, там дзесяткі школ, якія на добрую справу павінны быць ужо даўно заменены на мураваныя. Трэба аднак быць шчырым і гаварыць да канца: Зубачам могуць памагчы толькі Сямяцічы, ставяць ужо многа гадоў зубачоўскую справу на першым месцы ў сваім павеце, і ёсць перспектывы выйсця з цяжкай сітуацыі, раней або пазней.

*С. Яновіч*

не праціўніка, які паспеў перайсці ў напрамку Шпрэмберга на трыццаць тры кіламетры. У выніку жорсткай бітвы пад вечар 24 красавіка наступленне гёрліцкай групоўкі праціўніка было спынена і наступаючая групоўка разгромлена.

І калі ва ўзаемадзеянні з нашымі войскамі менавіта польскія воіны пад камандаваннем генерала Свярчэўскага, героя грамадзянскай вайны ў Іспаніі, нанеслі сакрушальны ўдар гёрліцкай групоўцы, гэта выклікала ў мяне пачуццё двайнога задавальнення: апрача натуральнай радасці перамогі, было і адчуванне справядлівай помсты. Думаю, што гэты прыклад трыумфу баявой садружнасці заслугоўвае ўвагі савецкіх і польскіх пісьменнікаў.

У баях з нямецкімі фашыстамі мацнела брацкая баявая дружба савецкіх і польскіх воінаў. Вялікі баявы шлях ад беларускага мястэчка Леніна да Эльбы — яны прайшлі побач, у адным баявым страі, мужна змагаючыся з гітлераўскімі захопнікамі.

Трынаццаць разоў адзначаліся ў загадах Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Узброеных Сіл СССР баявыя поспехі Войска Польскага, 23 злучэнні і часці Войска Польскага ўзнагароджаны савецкімі ордэнамі.

У полымі жорсткіх баёў з гітлераўскімі захопнікамі, у агні суровых выпрабаванняў нарадзілася і загартавалася савецка-польская баявая дружба. Гэта баявая садружнасць расце і мацнее з кожным днём, і няма такой сілы ў свеце, якая была б здольная падарваць брацкую непарушную дружбу, заснаваную на адзінстве агульнай мэты: будаўніцтве светлай будучыні чалавецтва — сацыялізма і камунізма.



*Камандуючы I Арміі ВП, ген. Паплаўскі ўзгадняе з савецкімі маракамі план садзейнічання ў фарсіраванні Одры.*

Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізвы старонкі на дроцікі або шнурочак.

○ БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ




3.

ўжо як след. Дрэвы зеляненіся. То была ўжо другая паводка на Палессі ў гэтым годзе. Першы раз адбылася яна з месяц назад, з крыгамі, замаразкамі. Пасля таго тыдні са два трымалася сапраўдная, цёплая вясна. Вада амаль сышла, але потым зноў пачаліся дажджы і снег. Ужо тыдзень, як скончылася і гэтая непагадзь. У іншых месцах прыступілі ўжо да ворыва, сяўбы, а ў гэтай нізіне ўсё яшчэ збіралася вада з далёкіх аколіц, асабліва з поўначы.

У такі час і трапілі сюды гэтыя два хлопцы. Яны былі аднагодкі і мелі абодва разам гадоў трыццаць пяць. Але выгляд, а таксама і характары іх былі зусім адменныя. Мірон быў худы, цыбаты дзяцюк, з блакітнымі вачыма, доўгім птушыным носам і доўгімі светлымі валасамі. Віктар, наадварот, — прысадзісты, карчасты, чарнявы, з круглым пляскатым тварам.

Мірон быў больш разважлівы, спакойны хлопец, а Віктар — жвавы, імклівы. Яны заўжды спрачаліся паміж сабою, але былі найлепшымі сябрамі і жыць не маглі адзін без аднаго.

Абодва вучыліся ў тэхнікуме ў адным з акруговых гарадоў Беларусі і былі самымі стараннымі ўдзельнікамі краязнаўчага гуртка. Можа, таму яны так і цікавіліся краязнаўствам, што нарадзіліся ў горадзе і ўвесь свой век пражылі ў ім.

З маленства яны былі суседзямі і таварышамі, таксама як і іхнія бацькі. Бацька Мірона працаваў у млыне, а Віктара — на шкляной гуце.

Прыроду, лес, вёску хлопцы ведалі толькі з тых экскурсій, якія рабілі, калі вучыліся ў сямігодцы. Далей як за дзесяць кіламетраў ад горада ім ніколі не даводзілася быць.

Вучыліся абодва добра, чыталі шмат кніжак, асабліва прыгодніцкіх — Жуль-Верна, Майн-Рыда, Купера і г.д. Цікавілі іх розныя далёкія краіны, дзікуны, індзейцы, якіх цяпер бадай ужо зусім няма. Захапляліся рознымі прыгодамі з іх жыцця, што адбываліся гадоў 60—80 назад. Марылі пра пальмы, джунглі, а не бачылі добрай пушчы, якая была за некалькі дзесяткаў кіламетраў ад іх. Уяўлялі сабе розныя паляванні на тыграў, сланоў, ільвоў, а вавёркі на волі не бачылі. Марылі пра мора, караблі, а не бачылі вялікага возера, якое ляжала за кіламетраў дваццаць ад іх.

У краязнаўчым гуртку яны даведаліся, што на Беларусі наогул, а ў іх раёне асабліва, ёсць шмат куткоў, не горшых ад заморскіх. Ёсць пушчы, не менш цікавыя, чымся далёкія трапічныя лясы. Ёсць азёры і балоты, якія ўвесну робяцца марамі. Ёсць звяры, якія радзей сустракаюцца на свеце, чым сланы і тыгры.

Паступова выявілася, што Мірон цікавіўся больш батанікай, а Віктар — заалогіяй. Чытаючы кнігі, кожны з іх галоўную ўвагу звяртаў на сваю галіну навукі. У жывым кутку Віктар важдаўся з трусамі, мышамі, жабамі, а Мірон — з рознымі раслінамі. Паступова кожны з іх досыць сур'ёзна азнаёміўся са сваім любімым прадметам.

Калі прыйшла вясна і дзесяцідзённыя канікулы, хлопцам вельмі захацелася зрабіць вылазку за горад,

 

2.

**Адважныя падарожнікі. — У моры. — Крушэнне карабля. — Падарожжа ў вадзе. — Невядомы бераг. — Падлік маёмасці.**

— Кіруй туды, вунь у той лясок! Цікава паездзіць у чоўне па лесе.

Доўгі Мірон сядзеў на кукішках на дне выдзеўбанага чоўна — «душагубкі». Калені яго датыкаліся да самага носа; рукамі ён трымаўся за бакі чоўна. Раптам ён падняў рукі, паказаў на лес і нават крыху прыўстаў. Човен захістаўся.

— Ды не хістай! Бачыш, што...

Віктар, які стаяў і кіраваў чоўнам, не паспеў скончыць і паваліўся на дно. Душагубка яшчэ больш захісталася, зачарпнула вады. Абодва хлопцы прыціснуліся да дна і не толькі рухацца, але і дыхаць перасталі. Нарэшце, човен супакоіўся; на дне яго плюхалася вада.

— Ну вось, бачыш, што ты зрабіў! — з дакорам сказаў Віктар. — Навошта было ўставаць ды варушыцца? Вычэрпвай цяпер ваду!

— Ды ты ж сам вінаваты, — агрызнуўся Мірон. — Перад кім было фанабэрыцца, што спрытна спраўляешся з гэтай праклятай душагубкай?

— Ну і справіўся б, каб ты сядзеў ціха.

— Я ж сядзеў, а вось ты забыўся, у якім чэрапе едзеш. Навошта стаяў на ўвесь рост?

Пры гэтым Мірон прыпадняўся. Зноў захістаўся човен.

— Зноў устаеш?! — грозна крыкнуў Віктар. — Калі хочаш тапіцца, дык лезь у ваду сам адзін, а я яшчэ пачакаю.

Мірон крыху засаромеўся.

— Ну-ну, — адказаў ён лагодна. — Давай лепш вычарпаем ваду.

— А чым будзеш вычэрпваць? Чарпак узяў?

— А ты ўзяў?

— Ды хто ж ведаў, што гэтая калода будзе цячы.

— Цячы не пацякла, а зверху, бачыш, налілося.

Хлопцы нерухома сядзелі адзін супраць аднаго, нібы буслы ў гняздзе, і пазіралі то на дно лодкі, дзе было пальцы на чатыры вады, то адзін аднаму ў вочы.

Човен, які і без таго мала высоўваўся з вады, цяпер яшчэ больш апусціўся. І яшчэ больш небяспечным быў кожны рух.

А навокал разлягалася неабсяжнае мора. Далёка ззаду ледзь віднеўся бераг, ад якога яны ехалі, а наперадзе, яшчэ далей, паўставаў той лес, на які хацеў паглядзець Мірон. Да лесу гэтага было яшчэ далёка, але затое ехаць туды было цікавей. Улетку тут канчалася возера і пачыналася непраходнае балота, якое цяпер было заліта вадой. Гэтай вадзе не відаць было канца-краю, апрача той палоскі лесу на даляглядзе. І на ўсёй гэтай прасторы то там, то там вытыркаліся з вады верхавіны дрэў і кустоў — то паасобку, то групамі.

Надвор'е было ціхае, цёплае. Веснавое сонца грэла

4.

куды-небудзь падалей, на некалькі дзён, пабачыць славутае палескае разводдзе. Такая вылазка ім здалася цікавейшай, чым арганізаваная экскурсія ўлетку.

— Там усё ідзе па раскладу, як заняткі ў класе, — казалі яны. — Загадзя ведаеш, дзе калі будзеш і што цябе там чакае. Не можаш пайсці, куды захочаш, спыніцца, дзе сам хочаш, рабіць, што табе падабаецца. Такія падарожнікі ў дарозе адчуваюць сябе, як дома, не ведаюць незвычайных прыгодаў і небяспек. Якое ж гэта падарожжа?!

Калі яны сказалі аб сваім плане некаторым з таварышаў, дык тыя паднялі іх на смех:

— Ну і выдумалі! Якая карысць ад такога падарожжа, які сэнс?

— Нічога вы не разумееце! — пакрыўдзіліся сябры і больш ужо ні з кім не распачыналі гаворкі на гэтую тэму. Але цвёрда пастанавілі выканаць свой намер, чаго б гэта ні каштавала, каб даказаць усім, што незвычайнае падарожжа цікавей, чым звычайнае.

І вось нашы падарожнікі апынуліся ў чоўне сярод бязмежнага мора. І пакуль што былі задаволены.

— Давай вычарпаем ваду шапкамі, — прапанаваў Мірон.

— Ды нічога іншага не застаецца, — згадзіўся Віктар. — Толькі баюся, што ты пачнеш варочацца, як мядзведзь, і перакуліш лодку.

— А я баюся, каб яна не перакулілася ад руху твайго языка, — спакойна сказаў Мірон і, зняўшы шапку, пачаў вычэрпваць ваду.

Зараз жа далучыўся Віктар, і вада хутка была вычарпана. Можна было ехаць далей.

— А да таго лесу, мусіць, далёка, — прамовіў Мірон.

— А што, можа, спалохаўся? Можа, назад хочаш ехаць? — упікнуў Віктар.

— Каб толькі ты не спалохаўся, — насмешліва адказаў Мірон.

— Ну, гэтага, брат, не дачакаешся! — свіснуў Віктар. — Першы раз па моры еду.

— Толькі карабель наш псуе падарожжа, — уздыхнуў Мірон.

— А ты сядзі спакойна, і ўсё будзе добра, — сказаў Віктар і ўзяўся за вясло.

— Ды навошта ты зноў становішся? — крыкнуў Мірон. — Дай лепш буду я, а ты адпачні.

— Паглядзім, — усміхнуўся Віктар і аддаў вясло.

Мірон асцярожна, але цвёрда прыладзіўся на каленях і пачаў веславаць.

— Ну, і якая ж розніца? — засмяяўся Віктар. — Ты на каленях стаіш нават вышэй, як я на нагах.

— Розніца ёсць, — сур'ёзна адказаў Мірон. — Цэнтр цяжару ніжэй, калі памятаеш фізіку.

— Наўрад ці сам ты ведаеш, дзе ў цябе цэнтр цяжару, — нездаволена буркнуў Віктар.

Асцярожна, мерна і моцна гроб Мірон, і човен пасоўваўся досыць шпарка. Вось наблізіліся першыя кусты, часам сухі чаротнік вытыркаўся з-пад вады: значыцца, скончылася возера і пачаўся бераг. Але праз некаторы час зноў выехалі ў другое, меншае возера.

**ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ**

# КРАІНА БЕГУНОЎ

Выводзяцца пераважна з акругі Нандзі. Як правіла — вегетарыянцы. Хуткія і надзвычай вынослівыя, былі адкрыццём алімпіяды ў Мексіцы. Заваявалі 3 залатыя, 4 сярэбраныя і 1 бронзавую медалі, займаючы высокае месца ў неафіцыйнай дружыновай класіфікацыі. Няцяжка здагадацца, што гутарка пра бегуноў Кеніі.



*Фінал на 10 км у Мексіцы. Нафталі Тэму (575) бяжыць яшчэ на шостым месцы. Але дасканалы фініш прынясе яму перамогу.*

Зоркай першай велічыні стаў Кічонге Кейна. З яго імем звязаны першыя дасягненні прадстаўнікоў Чорнай Афрыкі на стадыёнах свету. У 1965 г. пабіў рэкорд на 3 і 5 км (7:39,6 — 13:24,2), а з Мексікі прывёз залатую медаль за 1500 м і сярэбраную за 5 км. Філігранны Нафталі Тэму выйграў у Мексіцы бег на 10 км. За 1500 м на п'едэстале ў Мексіцы стаяў побач Кейна таксама яго зямляк Вільсан Кіпругут. Бліскучую кар'еру зрабіў Амос Бівот. Амаль фантастыка: рэгулярную трэніроўку пачаў ён толькі два месяцы перад выездам у Мексіку. 22-гадовы студэнт выйграў цяжкі бег на 3 км з бар'ерамі... За імі ідуць іншыя.

— Я перакананы, што мы будзем адыгрываць усё большую ролю на сярэдніх і доўгіх дыстанцыях, — сказаў кенійскі трэнер Віліям Еда. — Маладыя людзі запоўнілі клубы. Спрыяльны клімат і геаграфічнае палажэнне, а таксама фізічныя схільнасці нашых спартсменаў з'яўляюцца дасканалым фундаментам. Увядзенне сучасных трэніровачных метадаў і абняцце арганізацыйнымі формамі падрыхтоўкі некалькіх сотняў здольных бегуноў дазволіць нам поўнасцю выкарыстаць магчымасці.

У Мексіцы прымала ўдзел 400 афрыканцаў, на алімпіяду 1972 года паедзе 1400. Медалі бегуноў з Кеніі не будуць ужо неспадзянкай. Яны... запланаваныя.



*Фарпост кенійскай лёгкаатлетыкі — Кінчонге Кейна.*

**КУТОК ГАСПАДЫНІ**

**ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ**

## АСЕННІЯ САЛАТЫ

Прыйшла пара году, калі што як што, але салаты рабіць ёсць з чаго. Гародніны пад дастаткам — выбірай што хочаш. Дык кожны дзень можна рабіць што іншае.

### САЛАТ З МОРКВЫ

Бярэм 3 морквіны, 2 кісла-салодкія яблыкі, 1 невялікі карэньчык хрэна, соль, цукар, лімонны сок. Аскрабсці і памыць моркву і хрэн, сцерці на дробнай тарцы. Яблыкі мыем і, не абіраючы, сціраем на бурачанай тарцы. Усё вымешваем, дадаем па смаку солі, цукру і лімоннага соку. Хто любіць, можа яшчэ паліць салат густой смятанай.

### САЛАТ З ПОРАЎ

На салат патрэбны 3 вялікія поры, 4 струкі марынаванай папрыкі і зяленіна. Поры мыем вельмі старанна, нарэзваем кружочкамі, спырскваем лімонным сокам, крыху солім. Праз 10 мінут дадаем нарэзаныя палоскамі струкі марынаванай папрыкі, спырскваем алеем, пасыпаем зялянінай.

### САЛАТ З СЕЛЕРА

1 вялікі селер, 1 морквіну, 1 яблыка сціраем на бурачанай тарцы, солім, дадаем крыху цукру і вымешваем з 3—4 лыжкамі смятаны.

### САЛАТ З БЕЛАКАЧАННАЙ КАПУСТЫ

1/4 качана капусты шаткуем вельмі тонка, солім і ўбіваем драўлянай лыжкай. Праз 15—20 мінут дадаем сцертую на буйнай тарцы морквіну, яблыка, дробна нарэзаную цыбуліну і кіслы агурок. Усё гэта прыпраўляем па смаку соллю, перцам, цукрам і лімонным сокам, паліваем свежым алеем. Замест морквы ў гэтым салаце можна выкарыстаць некалькі кавалкаў марынаванай папрыкі.

### САЛАТ З КІСЛАЙ КАПУСТЫ І БУРАКОЎ

2 даволі вялікія буракі вышароўваем і варым, не абіраючы. Як толькі яны стануць мяккія, адцэджваем, паліваем халоднай вадой і абіраем. Сціраем іх на буйнай тарцы і спалучаем з 30 дэкамі (300 г) кіслай капусты. Дадаем яшчэ адну дробна нарэзаную цыбуліну, соль і перац, паліваем алеем.

*Гаспадыня*

**МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА**

### ІРТЫШ І СОНЦА

Плямы на сонцы ўплываюць на паўнаводнасць сібірскай ракі Іртыша. Калі сонечная актыўнасць дасягае свайго максімума, гадавы сцёк ракі павялічваецца больш чым на дзве трэці. Гэта паўтараецца праз кожныя дзесяць — дванаццаць год.

ЗА КУЛІСАМІ II СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

*Стэнлі Вестан, Бертыль Лагерстром*




Па дарозе, што вядзе ў Парыж, імчаў аліўкава-жоўты штабны аўтамабіль. На заднім сядзенні афіцэр, мяркуючы па знаках адрознення, вельмі высокага рангу, праглядаў дакументы, робячы на іх нейкія паметкі. Калі аўтамабіль звярнуў на захад у напрамку Версаля (там знаходзілася штаб-кватэра саюзных войск), з-за штабеля бярвенняў, што ўзвышаўся ля дарогі, выскачыў «джып» і паімчаў наўздагон. У ім сядзела чацвёра ў амерыканскай ваеннай форме. Параўняўшыся са штабной машынай, яны раптам узмахнулі рукамі. Некалькі яйкападобных цёмных прадметаў прабілі ветравое шкло і бакавыя вокны жоўтага аўтамабіля. Серыя аглушальных выбухаў разарвала паветра, аліўкава-жоўтая машына звалілася ў кювет, ахутаная клубамі чорнага дыму. Праз некалькі мінут на месцы здарэння з'явіліся супрацоўнікі ваеннай паліцыі. Яны паспрабавалі наблізіцца да палаючага аўтамабіля. Але дзе там! Перад імі быў толькі гарачы металічны каркас. У паветры стаяў непрыемны пах гарэлай гумы.

ГАЛАВАРЭЗЫ З ГРУПЫ СКАРЦЭНІ

У гэты момант пад'ехала яшчэ адна машына з шыльдачкай «Прэса» на ветравым шкле. Яна рэзка затармазіла, і з яе выскачыў чалавек. Убачыўшы палаючы аўтамабіль, ён у адчаі схапіўся за галаву.

— Чорт вазьмі! — усклікнуў ён. — Гэта ж машына Эйзенхаўэра! Яны забілі Айка!

А «джып», у якім сядзелі ўдзельнікі замаху, знаходзіўся ўжо за некалькі кіламетраў ад месца здарэння. Праз некаторы час, гэтай жа раніцай 13 снежня 1944 года, ён спыніўся ля амерыканскай бензазаправачнай станцыі на ўскраіне Ардэнскага лесу.

— Petrol, please, — сказаў шафёр маладому хлопцу ў амерыканскай форме, які падышоў да «джыпа».

Амерыканец прывычным рухам узяў шланг, але раптам насцярожыўся. Падазрона агледзеўшы пасажыраў, ён спытаў:

— Вы адкуль, хлопцы? З якой часці? — і падаў знак двум ваенным палісменам, што стаялі непадалёк.

Вадзіцель «джыпа» не адказаў. Рэзка ўключыўшы першую скорасць, ён даў поўны газ. Імгненне — і «джып» імчаў па абледзянелай дарозе. Раптам заскрыгаталі тармазы, але позна: «джып» урэзаўся ў сустрэчную аўтакалону. Тройчы перакуліўшыся, ён зваліўся ў кювет уверх коламі. Амерыканскія салдаты дасталі з машыны чатыры знявечаныя целы і акуратна паклалі іх на абочыне.

Жывы застаўся толькі шафёр. З глыбокай раны на лбе цякла кроў. Салдаты адвялі яго ў медчасць аўтакалоны. Неўзабаве з'явіліся два ваенныя палісмены і салдат з бензакалонкі.

— Гэтыя тыпы — немцы! — крыкнуў ён начальніку калоны, юнаму ружавашчокаму лейтэнанту.

— Адкуль гэта ты ўзяў?

 

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЯК ПАЕХАЦЬ БЯСПЛАТНА ЗА ГРАНІЦУ

18 верасня 1970 года ў Варшаве адбыўся чарговы розыгрыш турыстычных ашчадных кніжак. У розыгрышы прымала ўдзел 6197 укладаў па 3000 зл. Было выйграна 16 прэмій у выглядзе экскурсій за граніцу, а таксама 41 прэмія ў выглядзе пуцёвак на адпачынак у краіне.

У нашым, Беластоцкім, ваяводстве турыстычная ашчадная кніжка № 1.263 выйграла 14-дзённы бясплатны адпачынак у Цехацінку. Кніжка гэтая была выдадзена І аддзелам ПКО ў Беластоку.

Турыстычныя ашчадныя кніжкі выдаюць аддзелы і агенцыі ПКО. Класці ж грошы на іх можна ва ўсіх аддзелах, агенцыях ПКО і паштовых аддзяленнях.

На турыстычных ашчадных кніжках не растуць працэнты, але затое гэтыя кніжкі кожны квартал прымаюць удзел у розыгрышах прэмій. Прэміі гэтыя складаюцца з бясплатных экскурсій за граніцу, альбо бясплатных пуцёвак на адпачынак у нашай краіне — у пенсіянатах І катэгорыі, у найцікавейшых мясцовасцях.

На турыстычную ашчадную кніжку можна палажыць не менш, чым 3.000 зл. Па 3000 зл. можна класці некалькі разоў — колькі разоў на вашай кніжцы будзе па 3000 зл., столькі разоў гэтая кніжка будзе прымаць удзел у розыгрышы. Напрыклад, калі на вашай кніжцы ёсць 6000 зл., то будзе яна прымаць удзел у розыгрышы 2 разы, калі 9000 зл. — дык 3 разы, і г.д.

Неабходна аднак для таго, каб прыняць удзел у розыгрышы, утрымаць грошы на кніжцы прынамсі на працягу 3-х месяцаў перад кожным розыгрышам. (ач)

## ГАСПАДЫНІ З ПЯНЬКОЎ

Актыўна працуе КГВ (Гурток вясковых гаспадынь) у Пяньках (Беластоцкі павет), які ўзначальвае Надзя Азябла. Пяньkoўскі гурток налічвае 40 асоб. Жанчыны арганізуюць у сваёй вёсцы дзяцінцы на час пільных палявых работ, гадуюць менш вядомую на вёсцы агародніну, якую вырошчваюць у інспектах. Штогод купляюць многа куранят, прымаюць удзел у конкурсах па жывёлагадоўлі і па вырошчванню збожжавых культур. КГВ цесна супрацоўнічае з МБМ (Міжгуртковай машыннай базай). Апякуецца і развівае дзейнасць мясцовай святліцы. Удзельнічае ў шматлікіх чытальніцкіх конкурсах.

*Янка Цялушэцкі*




*Дарагое Сэрцайка!*

Год таму назад я пазнаёміўся з Марысяй. Мела яна тады 18 год, была гэта прыгожая, стройная і талковая дзяўчына. Марыся жыла далёка ад маёй вёскі, але мела ў нашай вёсцы сяброўку і да яе часамі прыязджала. Мы адразу спадабаліся адзін аднаму. Пачалі пісаць лісты. У лістах Марыся пісала мне, што кахае, што чакае сустрэчы. Аднак не прыехала. Потым пісала, што не можа прыехаць, што мае нейкія сямейныя клопаты. А праз нейкі час зусім перастала пісаць. Я напісаў ужо тры лісты, а адказу няма. Што магло стацца, ці захварэла, ці з іншым пазнаёмілася? Як табе здаецца? А мо паехаць да яе, хоць яна мяне і не запрашала, а знаёмых ніякіх у яе вёсцы не маю.

*Янка з Беластоцкага павета*

*Янка!* І я таксама магу толькі здагадвацца, аднак не магу сказаць нічога канкрэтнага. Мо і сапраўды мае нейкія клопаты, а мо знайшла другога. Марысі ж толькі 18 год і вельмі цяжка паверыць у сталасць пачуццяў 18-гадовай дзяўчыны. Аднак не гарачыся, пачакай. Пішаш жа, што Марыся талковая дзяўчына, дык напэўна напіша да цябе і выясніць справу. Бо нават калі і пакахала іншага, павінна напісаць і неяк далікатна гэтую справу табе выясніць. Аднак ехаць табе да Марысі не раю. Не маеш жа нікога знаёмага, не маеш куды заехаць, а так проста да Марысі, дык не варта рызыкаваць, бо сапраўды, калі б тут увайшла справа трэцяй асобы, будзе табе вельмі прыемна быць няпрошаным госцем. Калі наогул Марыся не напіша і не прыедзе, гэта будзе абазначаць, што ты перастаў проста цікавіць яе. І з гэтым таксама трэба згадзіцца.

*Сэрцайка*



## АКТЫЎНЫЯ Ў ГРАМАДСКІХ ЧЫНАХ

У грамадзе Юшкаў Груд (Беластоцкі павет) усе жыхары актыўна выконвалі працу грамадскім чынам.

Між іншым, так былі адрамантаваны дарогі на адрэзках Юшкаў Груд — Сушча, Міхалова — Падазяраны, Юшкаў Груд — Кухмы, у вёсках Юшкаў Груд і Рудня, былі таксама выкарчаваны кусты на 10 гектарах лугоў і сенажацяў у раёне вёскі Альшанка.

У грамадзе Шымкі грамадскім чынам быў давезены жвір і пясок на дарогу Лявонавічы — Луплянка, а таксама на адрэзак дарогі ад прыпынку ПКС у Шымках да пункта скупу жывёлы.

*Янка Цялушэцкі*

## У ГАРАДЗІШЧАНАХ ТРАДЫЦЫІ

У Гарадзішчанах, у Дуброўскім павеце, захаваліся традыцыі старых спеваў. Як сцвярджаюць кіраўнікі павятовых культурных улад, няма ў павеце такой другой вёскі, дзе б захавалася столькі даўняга беларускага фальклору. Добра было б, каб хтосьці з мясцовых людзей спісаў гэтыя песні, ратуючы іх такім чынам ад забыцця. Павінны гэтым пацікавіцца таксама і нашыя спецыялісты з Беларускага навуковага гуртка ў Беластоку. (ся)

## ДЛЯ ДАБРА ЛЮДЗЕЙ

Грамада Сакалда (на Сакольшчыне) прыдзелена да гміннай спулдзельні ў Крынках, і такія вёскі як Боркі, Суражкова, Лозне і іншыя вымушаны былі ездзіць за мінеральнымі ўгнаеннямі аж у Шудзялава — ад 20 да 30 кіламетраў. Трэба было траціць на гэта цэлы дзень. А часта было і так, што страціць селянін дзень і прыедзе з нічым: угнаенняў няма. А давезці ўгнаенні на балота! Слоі — да Супрасля амаль 30 км. Або Навінцы — да Суражкава звыш 20 км. Балота вёсак Кнышэвічы, Шудзялава і іншых таксама далёка — у Сакалдзе — каля 20 км.

У апошні час Павятовы саюз водных суполак у Саколцы пабудаваў у Сакалдзе магазін мінеральных угнаенняў. Такім чынам была вырашана балючая праблема цэлай ваколіцы.

А. С.

— Ён папрасіў «Petrol» і сказаў «please». Нашы хлопцы гавораць проста «gas».

Лейтэнант стаяў разгублены. Адзін з палісменаў, прыставіўшы дула кольта 45-га калібра да жывата параненага, крыкнуў:

— А ну, давай выкладвай, хлопец, пакуль я цябе не прыкончыў!

Ранены не рэагаваў. Ён сутаргава ўчапіўся пальцамі ў «маланку» сваёй курткі. Рэзкім рухам палісмен расшпіліў куртку. Пад ёй аказаўся шэры мундзір германскага вермахта.

Прыкладна праз гадзіну палонны быў дастаўлены да капітана Максуэла Фрыда з І-й арміі. Як прынята, у пачатку допыту Фрыд дзейнічаў даволі мякка. Ён прапанаваў арыштаванаму цыгарэту:

— Як цябе завуць? — сказаў Фрыд па-англійску.

Затрыманы прагна зацягнуўся, зрабіўшы выгляд, што нічога не разумее. Фрыд устаў, і, памахаўшы пальцам у яго перад носам, закрычаў:

— Спыні свае фокусы! Я ведаю, што ты разумееш па-англійску. А ну, хутка, як цябе завуць?

— Мяне завуць... Франц, Франц Кеслер.

— З якой часці?

Кароткае маўчанне. Расціснуўшы акурак цыгарэты і гледзячы проста ў вочы Фрыда, немец адказаў:

— Атрад парашутыстаў Скарцэні! Першы ўзвод!

Капітан Фрыд падняў тэлефонную трубку.

— Злучыце з палкоўнікам Уэйдам! Калі лінія занята, тэрмінова аслабаніце. Справа надзвычайнай важнасці.

Праз некалькі секунд сувязь была наладжана. Пачуўшы ў трубцы голас Уэйда, Фрыд проста перайшоў да справы:

— Сэр! Парашутысты Скарцэні прасачыліся ў забароненую зону. Мы ўзялі палоннага. Я яго дапытваю!

Немец, што сядзеў насупраць Фрыда, ухмыльнуўся, заўважыўшы, як ўсхваляваны яго праціўнік. Закончыўшы размову, Фрыд спытаў:

— Дзе цяпер Скарцэні?

— Не маю ніякага ўяўлення, — раўнадушна адказаў палонны.

— Выдатна, — Фрыд павольна нахіліўся наперад. — А цяпер я скажу табе вельмі важную рэч. Важную для цябе. Цябе затрымалі ў амерыканскай ваеннай форме. Выходзіць, што ты не ваеннапалонны, а шпіён. У сваю чаргу, гэта азначае, што праз некалькі гадзін па прыгавору ваеннага трыбунала цябе адправяць у расход.

Ухмылка знікла з твара немца. Фрыд працягваў:

— Калі ж ты дасі правільныя паказанні, то можаш разлічваць на паблажку. Такім чынам: якое заданне было дадзена вашай групе?

Цяпер немец быў згодзен на ўсё. Ён сказаў:

— Нас прыслалі сюды ліквідаваць Эйзенхауэра.

Гэта прызнанне не вельмі ашаламіла Фрыда. Яшчэ некалькі тыдняў таму назад служба бяспекі саюзнікаў атрымала звесткі аб падрыхтоўцы «Аперацыі Грыф». Было вядома, што гэта — ідэя Гітлера. Фюрэр разлічваў, што забойства галоўнакамандуючага ўнясе замяшанне ў стратэгічныя планы саюзнікаў і падарве баявы дух войск. Было таксама вядома, што правядзенне аперацыі даручана падпалкоўніку войск СС, даволі вядомаму Ота Скарцэні.

*(Працяг будзе)*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**
„Ostatni lot" (radz.), 13—14. „Na pomoc" (angl.), 15—16. „Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski), 17—18.

**ДУБІНЫ**
„Dziewczyna na rozdrożu" (bułg.), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 17—18.

**НАРАЎКА**
„Każdemu swoje" (włoski), „Paragon gola" (polski), 14—18.

**НАРВА**
„Znicz olimpijski" (polski), „2 mamy 2 ojców" (jugosł.), 14—18.

**ЧЫЖЫ**
„Lew pręży się do skoku" (węgierski), „Przygody Tomka Sayera" (rumuński), 14—18.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**
„Na szlaku wojennych przygód" (czeski), „Szczęśliwy Aleksander" (franc.), 14—18.

**АРЭШКАВА**
„Toast" (polski), „Przygoda z piosenką" (polski), 14—18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**
„Topkapi" (USA), „Na szlakach wojennych przygód" (czeski), 14—18.

**ОРЛЯ**
„Tajemniczy mnich" (radz.), „Śmierć Indianina" (rumuński) 14—18.

**РАЙСК**
„Za frontem" (rumuński), „Kobieta wąż" (angl.), 14—18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**
„Marysia i Napoleon" (polski), 13—14. „Hasło bez odzewu" (bułg.), 15—16. „Gdy miłość przemija" (jugosł), 17—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**
„Kraksa" (radz.), 13—14. „Zdobywcy nieba" (radz.), 15—16. „Ostatni termin" (USA), 17—18.

**ЯНАЎ**
„Profesor zbrodni" (węgierski), 14—18.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**
„Szkice warszawskie" (polski), 13—14. „Wieczny kalendarz" (bułg.), 15—16. „Pali się moja panno" (czeski), 17—18.

**МЕЛЬНІК**
„Dziesięciu małych Indian" (angl.), 13—14. „Dzwony dla bosych" (czeski), 15—16. „Szkice warszawskie" (polski), 17—18.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**
„Pingwin" (polski), 13—14. „Daleko od słońca" 15—16. „Marysia i Napoleon" (polski), 17—18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**
„Bestia" (węgierski), „Człowiek bez paszportu" (radz.), 14—18.

**НОВЫ ДВОР**
„Szepczące ściany" (angl.), „Siedemnasty równoleżnik" (franc.), 14—18.


Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5923 W—3




 

Набліжаўся час, калі адлятаюць птушкі. Сёлета буслы з навакольных вёсак пачалі збірацца на мокрых сенажацях вельмі рана. Яны турбаваліся будучым падарожжам і горача абмяркоўвалі гэту падзею. Іх узбуджаны клёкат даносіўся да вёскі.

Вось тады і прыехала да нас спецыяльная камісія.

— Што ў вас чуваць? — спытаў прадстаўнік міністэрства.

— Нічога асаблівага, вось буслы збіраюцца адлятаць, — адказаў Мізэрак.

— А грамадская рада паклапацілася аб адпаведнай арганізацыі пералёту?

— Не-е-е.

— Дарма. Пералёт — гэта сур'ёзная праблема, самацёк тут недапушчальны, — сказаў прадстаўнік. — Да гэтага часу ў нас адлятылі ўсе птушкі, а трэба ператварыць пералёт у форму заахвочвання найлепшых. І ў вас ёсць такія. Трэба толькі ўмець вылучыць іх з агульнай стаі.



## КАЛІ АДЛЯТАЮЦЬ ПТУШКІ

Слова за словам і гутарка стала сур'ёзнай. Было вырашана праверыць Ясека, адзінага бусла з нашай вёскі. Ён быў ні то ўдавец, ні то разведзены, жыў самотна на клуні Вайташэка. І быў агульным любімцам — блудзіў па вёсцы, заглядаў у хату, браў з рук хлеб.

Тут якраз нараду давялося спыніць, таму што мы ўбачылі, як пасярэдзіне вуліцы крочыць Ясек. Мізэрак адчыніў дзверы.

— Ясек, Ясек, ідзі сюды!

Бусел затрымаўся, павярнуў галаву і ўважліва паглядзеў на Мізэрака.

— Ідзі, дурненькі, дам табе хлеба.

Толькі пасля гэтага абяцання бусел памалу рушыў да будынка грамадскай рады і даверліва ўвайшоў у дзверы. Мізэрак адразу ж перакруціў ключ у замку. Члены камісіі зашалясцелі паперкамі.

— Колькі жаб злавіў?

— 138, — далажыў рэферэнт ГРН Плысяк.

— Чаму ж так мала за цэлы сезон?

Ясек, які дасюль стаяў спакойна, пераступіў з нагі на нагу і заклекатаў.

— Халоднае лета, жаб было мала, — ператлумачыў Плысяк.

— Не спасылайцеся на аб'ектыўныя прычыны, — напаў на Ясека адзін з членаў камісіі.

— Мог лятаць і на суседнія сенажаці, а не абіцірацца ўвесь час навокал вёскі, — сказаў прадстаўнік.

— Я не ленаваўся, уставаў чуць свет.

— Затое і лягаў рана.

Ясек як бы засмуціўся. Стаў на адну нагу, схаваў дзюбу пад крыло.

— Гэта лянівая птушка не заслугоўвае ніякага заахвочвання, — рэзюмаваў старшыня камісіі. Усе па чарзе падпісалі пратакол.

Раптам за вокнамі мы пачулі клёкат. Буслы клікалі свайго сабрата ў далёкі шлях. Ясек ажывіўся і накіраваўся да дзвярэй.

— Нікуды не паляціце! — катэгарычна сказаў Мізэрак.

Замест Ясека паляцеў прадстаўнік міністэрства.

*Ф. Дзярэцкі*







*У эпоху рыцараў...*

## Галаваломка

*Нарысуйце невялікае кола і чатырма простымі, узаемна перасякаючыміся лініямі паспрабуйце раздзяліць яго паверхню на адзінаццаць частак рознай велічыні.*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе моладзі з Райска, Бельскага павета, змяшчаем украінскую песню:*

## ГАНДЗЮ, ГАНДЗЮ МОЯ МИЛА

«Гандзю, Гандзю моя мила,
Чим ти брови начорнила?»

«Начорнила купервасом,
Прийдеш, серце, іншим часом».

Пішла Гандзя в поле жати,
Та забула серп узяти.

Серп взяла, а хліб забула,
Таки Гандзя дома була.

*Габраўскія жарты*

### У ГАСЦЯХ

Госць аднаго габраўца абедаў разам з гаспадарамі.

— Вазьмі яшчэ адну катлецiну, — прапанаваў гаспадар.

— Дзякую, я ўжо з'еў цэлых тры.

— Ну, з'еў ты не тры, а чатыры, але вазьмі яшчэ адну, — дабавіў гаспадар.

### ЯДА ДЛЯ НАСТАЎНІКА

Калісьці ў адной габраўскай вёсцы настаўніка кармілі «па радоўцы» вучні — прыносілі яму есці з дому.

— Мама, — сказаў адзін школьнік, — заўтра мая чарга несці яду настаўніку.

— Ну, добра, — адказала маці, — ідзі і нацерабі на ўзмежку татарскага проса, я звару яму суп. Толькі глядзі выбірай буйнейшае, бо дробнае мне для куранят трэба.

## САЛДАЦКІ ГУМАР

### ХТО САМЫ ЛЯНІВЫ

Гэта было ў царскай арміі. Камандзір, каб даведацца, хто ў яго роце самы лянівы, аднойчы загадаў перад строем:

— Самы лянівы, крок наперад, марш!

Уся рота, апрача аднаго салдата, дружна зрабіла крок наперад. Камандзір здзіўлена пытае:

— Дык, значыць, толькі ты адзін у мяне не лодар?!

— Ды ён, вашабродзе, і крок лянуецца ступіць, — вытлумачыў камандзіру яфрэйтар.



*— Вось дык няўдача! Чорны кот перасёк нам дарогу.*

### СПОСАБ

У часе баёў на Заходнім Памор'і ўзялі ў палон вялікую групу гітлераўцаў. Экскартаваць палонных прыдзялілі толькі некалькі польскіх салдат. Каб гітлераўцы не ўцяклі, абрэзалі ім усе гузікі. Кожны палонны вымушаны быў рукамі трымаць нагавіцы, каб не ўпалі, і ніводзін з іх не мог думаць аб уцёках.

### ЧАМУ

— Чаму ты так хутка ўцякаеш, Джым? — спытаў амерыканскі салдат, даганяючы свайго калегу.

— Каб прадухіліць кровапраліцце, — адказаў салдат, ківаючы ў бок лесу, на ўскраіне якога паказаліся фігуры в'етнамскіх партызан.



*Ахвяры моды.*



*— На плячо!*

### ХОЛАД

Камандуючы I Арміі ВП перад пачаткам зімовага наступлення сказаў, надзяваючы дзве цёплыя кашулі:

— Сёння холадна, а калі б я дрыжаў з холаду, дык гітлераўцы падумалі б, што дрыжу са страху.

### ЛЯКАРСТВА

У часе вайны адзін салдат быў лёгка паранены ў галаву. Дык атрымаў ад лекара бутэльку гарэлкі, каб прамачыць рану. Калі пасля некалькіх дзён прыйшоў ён па наступную бутэльку, лекар спытаў:

— Ці рабілі вы дакладна, як я казаў?

— Прабаваў шмат, але ніяк не мог падняць бутэлькі вышэй рота.



*Секцыя маскіроўкі*

### ПСАЛМЫ

Пасля заканчэння II сусветнай вайны ў нашай краіне лютавалі банды. Ноччу лесам ідуць двое салдат і гутараць:

— Калі хочаш, каб на цябе бандыты не напалі, — гаворыць адзін, — дык гавары псалмы.

— Я бадай зараджу карабін, — адказвае другі, — бо не ўсе бандыты знаюцца на псалмах.

### ПАБЫЎКА

— Раскажыце, Кавальскі, — гаворыць плютановы, — як вы правялі дні ў час пабыўкі?

— Нічога асаблівага, грамадзянін плютановы. Усе сем дзён правёў з сёстрамі.

— І вам не даводзілася сумаваць?

— Не, грамадзянін плютановы. Сёстры былі не мае.

### ГУЗІК

— Радавы Сынковіч, дзе ваш мундзір?

— Я паслаў яго сваёй маці.

— Што?!

— У мяне адарваўся гузік, а прышыць няма каму...



### ЧАЛАВЕК ВАЙНЫ

Часопіс «Пары-матч» паведамляе, што ў амерыканскіх салдат у В'етнаме папулярнасцю карыстаецца кніга «Тыранікус Нікс» паэта Лаўрэнса Ферлінгеці. Гэта сатырычная ода з чатырох тысяч слоў, прысвечаная прэзідэнту Ніксану, «...чалавеку, які танна можа адшукаць вам новую вайну». Паэма друкуецца на ратагарах і распаўсюджваецца ў сотнях экземпляраў.



### ЛОЖАК НЕБЯСПЕЧНЫ, ЯК І АЎТАМАБІЛЬ!

Вывучэнне статыстычных даных аб няшчасных выпадках у Заходняй Германіі паказала: у выніку падзення з ложка ў 1968 годзе насмерць разбілася 600 чалавек! Ёсць усе падставы патрабаваць, каб у камплект ложка абавязкова ўваходзіў засцерагальны пояс накшталт аўтамабільнага!

### «БАЦЬКА ГОРАДА» З ЗААНАРКА

На выбарах у гарадскую ўправу жыхары аднаго з раёнаў бразільскага горада Сан-Паулу напісалі на бюлетэнях імя любімца заапарка — бегемота Рыка. «Мы лічым, што Рыка акажацца куды больш дзейсным, чым многія члены муніцыпалітэта», — заявілі яны. Выбарчая камісія адмовілася зацвердзіць кандыдатуру на той падставе, што Рыка непісьменны.




*Лепш удар сябра, чым пацалуй ворага.*